● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

7 сакавіка 1998 г. субота, № 52 (23403)




# ЗВЯЗДА

***Жанчынам Рэспублікі Беларусь***

***Дарагія маці і сёстры, жонкі і дочкі! Слаўныя жанчыны Беларусі!***

8 сакавіка ў нашай краіне адзначаецца сапраўды ўсенароднае свята — Дзень жанчын.

У гэты светлы, радасны, па-весеннаму хвалюючы дзень прыміце мае самыя цёплыя, шчырыя віншаванні, сардэчную ўдзячнасць за тое, што вы кожны дзень робіце для краіны, для сям'і, для ўсіх нас.

Вы працуеце на заводах і фабрыках, фермах і камбінатах, на будоўлях і ў навуковых лабараторыях, у школьных класах і студэнцкіх аўдыторыях, у рэдакцыях і канструктарскіх бюро, у бальніцах, бібліятэках і тэатрах. Паспяхова асвойваеце «мужчынскія» прафесіі: служыце ў арміі і міліцыі, займаецеся грамадска-палітычнай і прадпрымальніцкай дзейнасцю.

І заўсёды застаяцеся добрымі і ласкавымі маці і жонкамі — стваральніцамі дамашняй утульнасці. Глыбока перажываеце за блізкіх, падзяляеце іх нягоды і трывогі. Беражліва падтрымліваеце іх, дапамагаючы ў цяжкую хвіліну.

На вашых слабых плячах ляжыць клопат аб будучых пакаленнях, аб тых, каму працягваць будаўніцтва цудоўнай суверэннай Беларусі. Разумеючы гэта, вы з годнасцю несяце нялёгкую, але высакародную ношу мацярынства.

Нізкі паклон вам за гэта.

Спрадвеку жанчына была сімвалам Веры, Надзеі і Любові. Сімвалам дабра, цярплівасці і самаадданасці. Вашы мудрасць і працавітасць, сардэчная цеплыня і душэўная чуласць — самае вялікае багацце нашай краіны.

Шчыра спадзяюся, што кожны пражыты вамі дзень будзе напоўнены радасцю, а няшчасці і непрыемнасці няхай абмінаюць вас. Будзьце заўсёды прыгожымі і пяшчотнымі, каханымі і кахайце самі.

У гэты святочны дзень ад усяго сэрца жадаю вам, цудоўныя беларускія жанчыны, вялікага шчасця і светлага кахання, сямейнага дабрабыту і нязменнага поспеху. Дзякуй вам за тое, што вы побач з намі.

Са святам вас, родныя!

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**



*Паненкі пекныя ды маладзіцы,*
*вы наш*
*— адзіны залаты запас.*
*Старое сонца маладзей глядзіцца,*
*калі часцей глядзець на вас.*
*Яно раней спяшаецца ўзысці,*
*каб разбудзіць і кветкі, і крыніцы,*
*Каб асвятліць вам сцежкі і жыццё,*
*Паненкі пекныя і маладзіцы!*

**Рыгор БАРАДУЛІН.**

## ...І ЎСЁ Ж ЖЫЦЦЁ КРУЦІЦЦА ВАКОЛ ЖАНЧЫН

**На традыцыйную сустрэчу ў Саўміне з жанчынамі рэспублікі напярэдадні 8 Сакавіка прэм'ер-міністр сёлета не прыйшоў па вельмі важкай прычыне. Як вядома, 6 сакавіка ў расійскай сталіцы адкрылася пасяджэнне Савета кіраўнікоў урадаў СНД. Але свае самыя цёплыя віншаванні, пажаданні здароўя, шчасця, кахання Сяргей Лінг перадаў удзельніцам сустрэчы праз віцэ-прэм'ера Уладзіміра Замяталіна.**

Звяртаючыся да прадстаўніц усіх рэгіёнаў рэспублікі, усіх прафесій і ўзростаў, а іх сабралася 6 сакавіка ў святочнай зале Дома ўрада роўна 33, Уладзімір Замяталін адзначыў, што лёс шчаслiва адарыў мужчын, якія маюць адносіны да ўлады, магчымасцю павіншаваць са святам жанчын, што сталі апорай нашай маладой дзяржавы, якая будуецца. Ён перадаў прысутным словы Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што менавіта жанчыны цэментуюць наша грамадства, нагадаў, якія крокі робіць кіраўнік дзяржавы, парламент, урад, каб і ў нашы нялёгкія часы дапамагчы сем'ям, маці, дзецям.

Ад імя прэзідэнта і ўрада Уладзімір Замяталін уручыў чатыром удзельніцам сустрэчы нагрудныя знакі і пасведчанні аб прысваенні ганаровых званняў. Звання «Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь» удастоена спартсмен-інструктар нацыянальнай каманды па тэхнічных і авіяцыйных відах спорту магіляўчанка Ларыса Барысенка. Гордае званне «Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь» цяпер будуць насіць Людміла Гулевіч — дырэктар Ціхініцкай сярэдняй школы Рагачоўскага раёна, Алена Мядзелец — настаўніца Едскай сярэдняй школы Шаркаўшчынскага раёна і Валянціна Самусева, якая працавала да нядаўняга часу ў шостай сярэдняй школе Рэчыцы, а цяпер стала намеснікам старшыні Камісіі па адукацыю, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу ніжняй палаты беларускага парламента.

За кубкам чаю разам з работнікамі Савета Міністраў і міністрам сацыяльнай абароны Вольгай Даргель доўга абмяркоўвалі жанчыны ў гэты дзень праблемы нашага жыцця. Сярод іх — стварэнне цэнтраў сацыяльнай дапамогі ў рэгіёнах і арганізацыя дзіцячых малочных кухань, адкрыццё жаночых клубаў па інтарэсах і лёс салдацкіх удоў.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛТА.**

## САМЫЯ ЦЁПЛЫЯ СЛОВЫ ПРЭЗІДЭНТА — У АДРАС ЖАНЧЫН

**Жанчына заўсёды была сімвалам мудрасці, самаадданасці і кахання. Такія цёплыя словы ў адрас прадстаўніц прыгожай палавіны чалавецтва выказаў прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка ў час сустрэчы з жанчынамі рэспублікі, прысвечанай веснавому святу. Яна адбылася 6 сакавіка ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы. На сустрэчу былі запрошаны прадстаўніцы розных дзяржаўных структур, грамадскіх рухаў і галін народнай гаспадаркі з усёй рэспублікі — ад радавых працаўніц да тых, хто змог дабіцца высокага становішча ў грамадстве. Усіх іх, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, аб'ядноўваюць добрасумленныя адносіны да свайго справы і гарачае жаданне бачыць нашу краіну квітнеючай.**

Дыты. Асаблівую ўвагу, лічыць Аляксандр Лукашэнка, трэба ўдзяляць перш за ўсё будаўніцтву жылля ў вёсцы — у гэты бок і будзе накіравана ў далейшым жыллёвая палітыка.

Як адзначыў прэзідэнт, жанчыны — сапраўдныя гаспадыні нашай зямлі. Гаспадыні на палях і фермах, у заводскіх цэхах, навуковых лабараторыях, школьных класах і ўрачэбных кабінетах. Аднак іх удзел у органах дзяржаўнага кіравання Беларусі ён назваў недастатковым. Хоць у Савеце Рэспублікі колькасць жанчын дасягае 30 працэнтаў, у Палаце прадстаўнікоў парламента іх зусім няшмат. І ва ўрадзе толькі адна жанчына — міністр сацыяльнай абароны Вольга Даргель.

«Я не магу прад'явіць прэтэнзій ніводнай жанчыне, якая займае цяпер у нашай рэспубліцы дзяржаўную пасаду», — сказаў Аляксандр Лукашэнка і заклікаў жанчын імкнуцца да таго, каб кіраваць краінай нароўні з мужчынамі, і ў наступным годзе, калі адбудуцца выбары ў мясцовыя органы ўлады, гучна заявіць аб сабе.

**Аксана ПІВАВАР, БЕЛТА.**

У Беларусі такія сустрэчы сталі добрай традыцыяй. Аднак яны з'яўляюцца падставай не толькі для віншаванняў і шчырых пажаданняў, але і для размовы аб самых надзённых праблемах. Як адзначыў Аляксандр Лукашэнка, шлях выхаду з крызісу для нас будзе нялёгкім, хоць і цяпер дзяржава стараецца дапамагаць жанчыне-працаўніцы і жанчыне-маці. І ў далейшым, заявіў ён, грошы будуць накіроўвацца перш за ўсё на самыя важныя патрэбы: падтрымку мацярынства, дзяцінства, сям'і, будаўніцтва жылля, ахову здароўя, адукацыю і культуру.

Два гады таму ўрад прыняў Нацыянальны план дзеянняў па паляпшэнню становішча жанчын. У адпаведнасці з ім у Беларусі робіцца многае для таго, каб знізіць жаночае беспрацоўе. Зацверджаны шэраг дзяржаўных праграм — «Дзеці Беларусі», «Дзеці-інваліды», «Дзеці Чарнобыля», «Дзеці-сіроты» і іншыя. З'явіўся Закон «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей». І хоць памер гэтых дапамог невялікі, аднак, як сказаў Аляксандр Лукашэнка, гэта ўсё, чым дзяржава можа пакуль дапамагчы. Да таго ж, адзначыў ён, бацькі перш за ўсё самі павінны старацца забяспечыць сваіх дзяцей, адмовіўшыся ад утрыманскіх настрояў. Адной з асноў дзяржаўнай сямейнай палітыкі, паводле слоў прэзідэнта, з'яўляецца падтрымка жыллёвага будаўніцтва. У праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2000 года яму надаецца першараднае значэнне. Таму аб'ёмы здадзенага ў эксплуатацыю ў мінулым годзе жылля ў параўнанні з 1996 годам выраслі амаль на траць. Пашыраецца практыка выдачы жыллёвых пазык і крэдытаў, а маладым, няпоўным і мнагадзетным сем'ям прадастаўляюцца льготныя крэ-



# РОЗГАЛАС

## ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ СУСТРЭЛІ Ў ІРАНЕ Ў ЛЕПШЫХ ТРАДЫЦЫЯХ УСХОДНЯЙ ГАСЦІННАСЦІ

**Увечары 6 сакавіка пачаўся афіцыйны візіт Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Ісламскую Рэспубліку Іран. У тэгеранскім аэрапорце Мехрабад яго сустракалі міністр замежных спраў гэтай краіны Камаль Харазі, пасол нашай рэспублікі ў Іране Леанід Рачкоў і іншыя афіцыйныя асобы.**

Раніцай 7 сакавіка адбудзецца ўрачыстая цырымонія сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі ў Палацы Ісламскай Рэспублікі, а затым і яго перагаворы з Прэзідэнтам Ісламскай Рэспублікі Іран Сеедам Махамадам Хатамі самнасам і ў пашыраным саставе. У паездцы на Блізкі Усход беларускага прэзідэнта суправаджае вялікая афіцыйная дэлегацыя нашай краіны, у якую ўвайшлі Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Анатоль Малафееў, члены беларускага ўрада, прадстаўнікі рэгіёнаў, а таксама група кіраўнікоў вядучых прамысловых прадпрыемстваў.

У гэты ж дзень Аляксандр Лукашэнка наведае маўзалей імама Хамейні, дзе ўскладзе вянок і зробіць запіс у кнізе ганаровых гасцей. Затым у Гандлёва-прамысловай палаце адбудзецца сустрэча прэзідэнта Беларусі з іранскімі дзелавымі коламі. Вечарам ад імя прэзідэнта Ірана будзе дадзены абед у гонар кіраўніка беларускай дзяржавы.

У нядзелю Аляксандр Лукашэнка наведае востраў Кіш, на якім размешчана свабодная эканамічная зона.

Завершыцца візіт прэзідэнта Беларусі ў Іран 9 сакавіка падпісаннем двухбаковых дакументаў.

**Віктар КУКЛОЎ, БЕЛТА.**

## БУДУЧЫНЯ СНД БУДЗЕ ВЫЗНАЧАНА НА МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ

**Мадэль мадэрнізацыі Садружнасці Незалежных Дзяржаў вызначыць міжнародная канферэнцыя, якую плануецца правесці ў другой палове красавіка. Такое рашэнне прынята на пасяджэнні Савета кіраўнікоў урадаў краін СНД, што адбылося ў маскоўскім «Прэзідэнт-атэлі» 6 сакавіка.**

Ідэя правядзення канферэнцыі, прапанаваная прэзідэнтамі Украіны і Расіі і падтрыманая кіраўніком беларускай дзяржавы Аляксандрам Лукашэнкам, з разуменнем успрынята ўсімі дзяржавамі Садружнасці. Канферэнцыя павінна даць адказы на самыя актуальныя пытанні будучага існавання буйнейшай рэгіянальнай арганізацыі.

«Цяпер ужо відавочна, што СНД як прынцыпова новая сістэма міждзяржаўных адносінаў на постсавецкай прасторы здзейснілася», — заявіў на пасяджэнні кіраўнік расійскага ўрада Віктар Чарнамырдзін. Аднак, паводле яго слоў, цалкам справядлівая думка аб неабходнасці ўдасканалення ўзаемадзеяння, павышэння каэфіцыента яго карыснага дзеяння, і перш за ўсё ў базавай эканамічнай галіне. Прэм'ер падкрэсліў, што для дасягнення пастаўленых мэтаў «настаў час нестандартных і неардынарных рашэнняў і крокаў».

Прыкладам развітога супрацоўніцтва можна лічыць адносіны паміж Беларуссю і Расіяй. Кіраўнікі ўрадаў нашых краін Сяргей Лінг і Віктар Чарнамырдзін правялі ў гэты дзень сустрэчу адзін на адзін. Былі абмеркаваны пытанні ўмацавання крэдытна-грашовай сістэмы, праблемы двайнога падаткаабкладання, пастаўкі сыравіны гомельскаму ВА «Крышталь», а таксама разлікі за расійскія энерганосьбіты.

На другую палову дня была запланавана сустрэча Сяргея Лінга з першым віцэ-прэм'ерам Расійскай Федэрацыі Анатолем Чубайсам.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## ЗДАРЭННІ

## Ахвярамі ртуці сталі школьнікі

**Позна ўвечары ў таксікалагічнае аддзяленне бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі ў Мінску даставілі трох школьнікаў, двое з якіх браты. Дыягназ, які паставілі ўрачы, — атручэнне парай ртуці.**

Як удалося ўдакладніць карэспандэнту «Звязды», школьнікі сталі ахвярамі надзвычайнага здарэння, якое адбылося ў сярэдняй школе № 89. Там, прыблізна каля паловы пятай, было выяўлена 500 грамаў ртуці. «ЧП» вымусіла настаўнікаў спыніць заняткі да 9 сакавіка. Усе абставіны здарэння зараз высвятляюцца.

У гэты ж дзень надзвычайнае здарэнне адбылося і ў вёсцы Беражцы Жыткавіцкага раёна. Не пашанцавала калгасу «Шлях да камунізму», які панёс значныя страты. Там загінула 37 кароў і 18 бычкоў. Прычынай здарэння, як устанавілі, стала замена апор асвятлення, якую праводзілі рабочыя. Электрычны ток і прывёў да масавай гібелі жывёлы. Паводле папярэдніх звестак, матэрыяльны ўрон калгаса склаў 1,5 мільярда рублёў.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
## № 2

**АБ МЕРАХ ПА ЎРЭГУЛЯВАННЮ ПЫТАННЯЎ, ЗВЯЗАНЫХ З ВЫЛІЧЭННЕМ ПАДАХОДНАГА ПАДАТКУ З ФІЗІЧНЫХ АСОБ ЗЫХОДЗЯЧЫ З ІХ СУКУПНАГА ГАДАВОГА ДАХОДУ**

У мэтах упарадкавання вылічэння падаходнага падатку з грамадзян і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пастанаўляю:

1. Прыпыніць дзеянне частак першай і другой артыкула 20 Закона Рэспублікі Беларусь ад 21 лютага 1997 г. «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год» (Ведамасці Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 8, арт. 190) і артыкула 8 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 1997 г. «Аб асаблівасцях падаткаабкладання на 1998 год» (Ведамасці Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, 1998 г., № 4, арт. 20).

2. Падаходны падатак з даходаў, атрыманых фізічнымі асобамі ў 1997 годзе, вылічваць у адпаведнасці з нормамі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян».

3. Прадоўжыць тэрмін прадстаўлення дэкларацый аб даходах за 1997 год, прадугледжаных Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян», да 15 красавіка 1998 г., а тэрмін выплаты ці вяртання падаходнага падатку — да 15 мая 1998 г.

4. Не прымяняць да грамадзян, якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, меры адказнасці за несвоечасовую выплату цвёрдых сум падаходнага падатку за люты 1998 г.

5. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

у месячны тэрмін падрыхтаваць і ва ўстаноўленым парадку прадставіць праекты Законаў Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год» і «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб асаблівасцях падаткаабкладання на 1998 год»;

у трохмесячны тэрмін падрыхтаваць і ва ўстаноўленым парадку ўнесці праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян», у якім вызначыць састаў сукупнага гадавога даходу і парадак яго разліку, а таксама шкалу падатковых ставак для вылічэння падаходнага падатку з фізічных асоб па сукупнаму гадавому даходу, уніфікаваную з расійскім заканадаўствам;

забяспечыць прывядзенне іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Дэкрэтам.

6. Гэты Дэкрэт уступае ў сілу з дня яго апублікавання, з'яўляецца часовым і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляецца на разгляд Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*6 сакавіка 1998 г., г. Мінск.*

## Пасля завяршэння нарады ў Гродне Аляксандр Лукашэнка адказаў на пытанні журналістаў

**• Аб экспарце нашай сельскагаспадарчай прадукцыі.**

Нельга сказаць, што палітыка развіцця сельскай гаспадаркі ў нас і ў Расіі абсалютна сінхранізаваная. Расійская Федэрацыя лічыць, што трэба прадаставіць суб'ектам гаспадарання поўную свабоду... Гэты курс вельмі ліберальны. Мы ад такой палітыкі адмовіліся. Розніца ў тым, што дзяржава не адыходзіць ад гэтага сектара эканомікі. Мы будзем падтрымліваць і рэгуляваць сельскагаспадарчую вытворчасць.

Экспарт у Расію будзе павялічаны (бо нам патрэбны грошы, каб закупіць у Расійскай Федэрацыі сыравіну) у сувязі з тым, што і вытворчасць у нас павялічыцца. Перашкод і абмежаванняў для экспарту ў Расію няма. Ёсць толькі чарговасць. Мы просім губернатара Гродзеншчыны і іншых, каб перш за ўсё забяспечвалася наша насельніцтва. Усё астатняе арганізавана, не ствараючы сабе ж канкурэнцыю, вывозьце ў Расію, прадавайце, атрымлівайце грошы, купляйце паліва і іншыя рэсурсы. Ад цывілізаванага спосабу продажу тавару мы можам толькі выйграць.

**• Аб нашай рэакцыі на новыя правілы ўезду ў Польшчу**

— Мы — дэмакратычная дзяржава, я на гэтым абсалютна настойваю. І дэмакратычная дзяржава, якой з'яўляецца Польшча (калі яна сапраўды дэмакратычная), не павінна была так рабіць — адгароджвацца хаця б ад больш чым 300 тысяч палякаў, беларускіх грамадзян, якія пражываюць тут. Чаму мы закрылі межы, чаму не даём людзям магчымасці мець зносіны, што гэта за дэмакратыя? Што датычыцца адэкватных мераў, мы цяпер спрабуем з Расійскай Федэрацыяй дамовіцца ў гэтым плане. Не хацелася б, ведаеце, на ўдар адказваць ударам. Хацелася б, каб гэта было цывілізавана. І міністр замежных спраў па майму даручэнню міністру замежных спраў Польшчы аб гэтым сказаў. Яны папрасілі час падумаць. Мы пачакаем. Калі не — канешне, мы вымушаны будзем адэкватна рэагаваць на гэтыя рэчы.

**• Аб крымінальных справах грамадскага гучання**

— Я ніколі не быў «крыважэрным». Мабыць, мне больш перашкаджае, што я часта забываю тое, што не павінен забываць і людзям вельмі многае дарую. Шчыра кажучы, мне і Тамару Віннікаву шкада, і Лявонава, і Старавойтава. Лукашэнка зводзіць рахункі? Вы б пачыталі, што Старавойтаў піша цяпер. Ніхто яго не «душыць», не здзекуецца. Наадварот, я прашу, каб усё яму прадаставілі, нават тое, што ў следчым ізалятары не прадастаўляецца. Гэтак жа і Тамары Віннікавай. — Але мы яго (Старавойтава. — **Рэд.**) папярэдзілі: калі хочаш свой лёс захаваць і не правесці астатак жыцця ў турме, нам патрэбна толькі праўда. Не трэба «цягнуць» за сабой нявінных людзей, ні ў якім разе. Я і следчых прашу аб гэтым. Я сапраўды прыхільны да канцэпцыі, што сёння мы на кані, а заўтра невядома дзе апынемся, можа, і пад канём. Няма ў мяне таго, каб Лявонава абавязкова пасадзіць і г. д. Усё вырашыць суд, гэта я гарантую, ніякага адхілення ні ўлева, ні ўправа не будзе.

Але, разумееце, усе гэтыя справы, потым справа Мікалуцкага, на жаль, настолькі пераплеценыя... Мне, шчыра кажучы, не тое што шкада, мне вельмі цяжка атрымліваць такую інфармацыю, вельмі цяжка. Адзін з дзеячаў па справе Мікалуцкага (сёння мне далажылі), які даў вельмі сур'ёзныя паказанні, што датычацца і кіраўніка дзяржавы, — збег праз адну прыбалтыйскую дзяржаву, апынуўся быццам бы ў Маскве, але яго арыштавалі і прывезлі назад, на тэрыторыю Беларусі. Там рэчы вельмі нядобрыя, і вельмі непрывабна выглядаюць нават спецслужбы асобных дзяржаў. Я папрасіў Генеральнага пракурора быць гатовым да таго, каб пасля заканчэння гэтых працэсаў прадаставіць вам асобныя матэрыялы, каб вы сапраўды пераканаліся, што тут няма ніякіх нацяжак. Аж да таго, што вы ў свой час зможаце пагутарыць з гэтымі людзьмі.

**• Аб фінансавым становішчы дзяржавы ў сувязі з нядаўнімі ўказамі прэзідэнта па аграпрамысловаму комплексу**

— МВФ няхай паглядзіць на іншыя дзяржавы, з якімі ён мае быццам бліскучыя адносіны. У Германіі, у Аўстрыі, дзе я быў, дэфіцыт бюджэту звыш 5,5 працэнта. У нас дэфіцыт дзяржаўнага бюджэту звышцывілізаваны, 2,2 працэнта — назавіце яшчэ краіну, у якой такі дэфіцыт бюджэту. ЗША ў гэтым годзе паставілі пытанне аб бездэфіцытным бюджэце, упершыню ў гісторыі. Дай Божа, каб атрымалася.

Гэта лічба па ўказах — 16 трыльёнаў — уключае ўсё: і субсідыі бюджэтныя, і крэдыты, розныя авансы, і даўгі, якія мы адтэрміновалі. Гэта не ляжа на дэфіцыт бюджэту.

**• Аб адносінах да наглядальнай групы АБСЕ і прапаноў па правядзенню датэрміновых выбараў парламента і прэзідэнта**

— Я вельмі доўга адмаўляўся ад усякіх груп. Пагадзіцеся, гэта група ў Беларусі быць не павінна. Ну што мы, у Чачні? Што, у нас вайна ідзе і за намі трэба назіраць? І потым, вы ўяўляеце — мы, Еўропа, ЗША і Канада, заснавалі арганізацыю, мы плацім грошы, нанялі там чыноўнікаў для работы, каб звяраць нашы пазіцыі і курсы. І сёння на нашы грошы наняты намі чыноўнік прыедзе нас кантраляваць і ўказваць, як нам жыць далей. Хіба гэта не абсурд?

Аднак, калі нам сказалі, што гэта група будзе калі-нікалі прыязджаць у Беларусь, каб, па-першае, азнаёміцца з тымі працэсамі, якія тут ідуць і, па-другое, унесці прапановы па рэфарміраванню нашага заканадаўства, якое грунтуецца на Канстытуцыі 1996 года, я падумаў: чаго нам упарціцца? Хочуць яны прапанаваць нам нешта разумнае — калі ласка, прапануйце. Усё роўна апошняе слова, як і яны казалі, будзе за кампетэнтнымі органамі ўлады Беларусі, г. зн. кіраўніком дзяржавы і нашым парламентам. На іншае мы не пагодзімся.

У нас усе выбары адбудуцца выключна ў адпаведнасці з Канстытуцыяй. Таксама парадокс атрымліваецца. Усе — жорсткія праваабаронцы, усе — законнікі, асабліва ў АБСЕ, ЕС і г. д. І яны мяне штурхаюць на датэрміновыя выбары парламента. Вы, маўляў, правядзіце выбары, і мы ад вас адстанем. Ні парламент не хоча самараспускацца, ні я не маю намеру яго распускаць. Не толькі таму, што ў мяне няма падстаў, але і таму, што гэта Канстытуцыя, якую падтрымаў народ.

Апазіцыя сёння вядзе размову наконт выбараў у 1999 годзе прэзідэнта. Ну хіба гэта праблема? Вы думаеце, я баюся гэтых выбараў? Ды падтрымалі б мяне людзі на гэтых выбарах. Але справа не ў гэтым. Небяспека заключаецца не ў саміх выбарах, а ў тым, што, пайшоўшы на гэтыя выбары, я перакрэслю Канстытуцыю, прынятую на рэферэндуме, па якой выбары павінны адбыцца ў 2001 годзе.

І потым, вы ведаеце, што такое выбары. Гэта хаос, неразбярыха. Варта толькі аб'явіць за год, і пайшло: жадаючых стаць прэзідэнтам — мора, пайшлі па вёсках народ бударажыць. Не тое, што не пасеем, не тое, што стратэгію, якую выпрацавалі сёння, не ажыццявім, — зноў атрымаецца хаос і мы пагрузімся ў вір перадвыбарных баталій. Што, нам гэта сёння патрэбна?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**



**4 сакавіка ў Гродне адбыўся хакейны матч паміж ветэранамі спорту Гродна і Мінска. У ім прыняў удзел Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які закінуў тры шайбы.**

***НА ЗДЫМКУ:*** у час матча.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.

## ЛІТОЎСКІ ДРУК — ПРА НОВАГА ПРЭЗІДЭНТА

Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус азнаёміў прэм'ер-міністра Гедымінаса Вагноруса і кіраўнікоў партый, чые прадстаўнікі ўваходзяць у кааліцыйны ўрад, з планам рэарганізацыі Кабінета Міністраў. Разам са скарачэннем колькасці міністэрстваў з 17 да 13 прэзідэнт плануе рэарганізаваць Дзяржаўную падатковую інспекцыю і Дэпартамент мытняў, прадаставіць большую самастойнасць Дэпартаменту паліцыі і пашырыць паўнамоцтвы шэрагу віцэ-міністраў.



*Прэзідэнт і першая лэдзі.*

Лідэры Хрысціянска-дэмакратычнай і цэнтрысцкай партый лічаць, што прапановы прэзідэнта «без усякіх нечаканасцяў» і «падлягаюць абмеркаванню». Пытанне аб даверы прэм'еру будзе абмяркоўвацца ў сейме 10 сакавіка, аднак, як адзначае «Рэспубліка», амаль няма сумненняў, што В. Адамкус прапануе на пасаду кіраўніка Кабінета Міністраў цяперашняга прэм'ера Гедымінаса Вагноруса.

Альгірдас Бразаўскас, які пакінуў прэзідэнцкую пасаду, застаецца, тым не менш, самым папулярным палітычным дзеячам краіны. Аб гэтым сведчаць даныя апытання грамадскай думкі, праведзенага ў сярэдзіне лютага літоўска-брытанскай кампаніяй «Балтыес цірымай», з якім знаёміць газета «Рэспубліка». 71 працэнт рэспандэнтаў паставілі А. Бразаўскаса на першае месца, за ім ідзе цяперашні прэзідэнт Валдас Адамкус — 66 працэнтаў. На трэцім месцы — яго супернік па прэзідэнцкай гонцы парламентарый Віценіс Андрукайціс з 58 працэнтамі.

**Эльта-Белта.**

## ПАЛЯКОЎ
## Валерый Аляксеевіч

На 53-м годзе пасля цяжкай хваробы пайшоў з жыцця кіраўнік адміністрацыі Ленінскага раёна г. Магілёва, дэпутат гарадскога Савета дэпутатаў Палякоў Валерый Аляксеевіч.

Палякоў В. А. нарадзіўся 28 жніўня 1945 года ў горадзе Магілёве. У 1964 годзе закончыў Магілёўскі машынабудаўнічы тэхнікум, пазней — Мінскую вышэйшую партыйную школу. Свой працоўны шлях пачаў у 1963 годзе на Магілёўскім заводзе «Электрарухавік» токарам. З 1968 па 1970 год працаваў сакратаром камсамольскай арганізацыі завода, потым знаходзіўся на партыйнай рабоце. У 1981 годзе ўзначаліў выканаўчую ўладу Ленінскага раёна горада Магілёва.

Пайшоў з жыцця бліскучы кіраўнік і таленавіты арганізатар, чалавек з добрым сэрцам і чулай душой, сапраўдны настаўнік і верны таварыш. Ён аддаваў усяго сябе служэнню людзям, не шкадуючы ні ўласнага часу, ні здароўя. З'яўляючыся дэпутатам гарадскога Савета дэпутатаў, Валерый Аляксеевіч вызначаўся дакладнай грамадзянскай пазіцыяй, здольнасцю ісці насустрач пажаданням сваіх выбаршчыкаў і знаходзіць шляхі вырашэння праблем, якія іх хвалявалі. Усе гэтыя якасці здабылі яму заслужаную любоў і павагу таварышаў па рабоце, усіх тых, хто звяртаўся да яго за дапамогай і падтрымкай.

Глыбока смуткуем і выказваем шчырыя спачуванні сям'і, родным і блізкім нябожчыка.

Светлая памяць пра Валерыя Аляксеевіча Палякова назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**Лінг С. С, Шыпук П. У., Малафееў А. А, Мясніковіч М. У., Ціцянкоў І. І., Кулічкоў А. М., Улашчык Л. І., Сівіцкі Д. А., Мартыненка В. Р., Сяліцкі К. У., Шлопак С. Ю., Хмялеўскі А. У.**

**Калегі па працы выказваюць спачуванні Івану Аляксандравічу і Вользе Васільеўне Драздам у сувязі са смерцю МАЦІ і СВЕКРЫВІ.**




# ПАДАЙЦЕ НА КВЕТКІ,

## АЛЬБО ЯК КАРЭСПАНДЭНТЫ «ЗВЯЗДЫ» — «СТУДЭНТ» АЛЕСЬ СІВЫ І «БЫЛЫ ІНЖЫНЕР» СЯРГЕЙ КУРКАЧ ПРАСІЛІ «МІЛАСЦІНУ» НА КАМАРОЎСКІМ РЫНКУ

Рэдакцыя дае заданне. Звяртаемся ў Савецкі РАУС. Выконваючы абавязкі начальніка як адрэзаў: «Тэлефануйце начальніку ГУУС». Паколькі ўся асалода губляецца з-за розных тэлефанаванняў, адпраўляемся на Камароўскі рынак на свае страх і рызыку.

Я «студэнт». Дадуць грошы ці не — не ведаю. Першым падыходзіць пенсіянер: «На табе, хлопчык, сто рублёў, больш няма».

Пачынаю крычаць: «Людзі добрыя! Дайце хоць па сто рублёў на кветкі дзяўчыне! Кожны дасць па сто рублёў, ужо хаця б пялёстак будзе».

Падыходіць грузін: «На тэбе 20 тысяч, купіш дэвушке роза».

Пачынаю выкрыкваць: «Людзі, што, шкада студэнту сто рублёў?»

Падыходзіць дзяўчына: «Малады чалавек, гэта вам за смеласць», і цалуе мяне ў шчаку. Шчыра скажу: хацелася падбегчы да той дзяўчыны і аддаць ёй грошы, аднак канспірацыя...

... Падыходзяць пенсіянеркі, пажылыя мужчыны, нават студэнты — усе даюць грошы, хто па сто рублёў, хто па тысячы.

Падыходжу я на «піўнуху»: «Падайце, хто колькі можа, студэнту на кветкі дзяўчыне».

— Можа яму даць? — пытае адзін.

— Па мордзе яму даць, няхай ідзе вагоны разгружае, адказвае другі.

Шчыра скажу, «фотакартку» мне ў той дзень маглі натуральным чынам і «начысціць». Дзякуй Богу, што падышоў другі «кліент» са словамі: «У мяне дома свой такі сядзіць».

А чалавек, які пахмяляўся півам, і ўвогуле мяне ўразіў:

— Ты хто такі?

— Студэнт.

— Я сам інвалід. Грошай няма. Калі хочаш, піўка хлебані.

Тут падыходзяць да мяне яшчэ трое мужчын. Адзін з іх дае сем тысяч рублёў і кажа: «Малайчынка! Ну ты, студэнт, даеш!».

Спыніўся «мяснік»:

— Падыдзеш да мяне, запытаеш Сяргея. Папрацуеш грузчыкам — сто тысяч у дзень, а крамя таго будзеш мець два—тры кілаграмы мяса. Прадасі — будзе і на кветкі».

Людзі падыходзілі розныя. Падыходзілі дзяўчаты, падыходзілі пенсіянеркі, якія спасылаліся на маленькую пенсію і давалі толькі па сто рублёў. Аднак больш за ўсё мяне ўразілі паводзіны нашага АМОНа. Бабулькі, якія мяне «ахоўвалі», толькі паспелі выкрыкнуць: «Сынок, зараз цябе забяруць!».

«Камуфляжы» падышлі да мяне і адкрытым тэкстам запыталі: «У чым праблема»? Нічога іншага не заставалася, як прад'явіць рэдакцыйнае пасведчанне і паказаць адлаведную паперу.

— Плакат палітычны?

— Ды не, студэнт, грошы прашу.

— Дык колькі вам даць? — такога ад АМОНаўцаў я нават не чакаў.

— У вас сёння свята, з вас грошай браць не буду...

...Па вялікаму рахунку, сёння я мог бы зарабіць больш, чым паўмільёна. Аднак і тое, што за гадзіну я назбіраў 58 тысяч (прабачце, аднак 2.500 рублёў з агульнай касы я выкарыстаў на платны камароўскі туалет), ужо нешта ды значыць. Ва ўсялякім разе, прашу прабачэння ў тых людзей, якія давалі грошы (ну не мог я сябе рассакрэціць), а тыя грошы, што назбіраны мною, пойдуць на цукеркі жанчынам газеты «Звязда».

* * *

«Інжынеру» ў ролі прасіцеля ў гэты дзень зусім не шанцавала. Большасць людзей, прачытаўшы плакат, здзіўлена пераглядваліся, пасмейваліся, а то і проста моўчкі праходзілі міма.

Праўду кажучы, першыя тры хвіліны мне было так сорамна, што я стаяў патупіўшы вочы і дрыжачай рукою, моцна сціскаючы дрэўка плакаціка, чакаў канца свету. Прытомнасць мне вярнула яшчэ даволі моцная бабуля з вялікім клункам за плячыма. Яна зазірнула мне прама ў вочы, спытала-параіла: «Скарацілі? Дык гэта ж добра, радуйся. Зараз ты вольны як птушка. Так што ідзі да нас і спекулюй, як усе. Купляй патанней і прадавай даражэй. Вось табе і ўсе інстытуты. А то намаляваў сорам нейкі. Не заробіш ты гэтак нічога», — як адрэзала бабуля.

Моцная палавіна чалавечага роду ва ўзросце за 40 глядзела на мяне злосна. Былых інжынераў яны чамусьці недалюблівалі. Нават калі я спрабаваў перавесці гутарку на жарт, усё роўна ў мой бок ляцелі словы: «Такія, як ты, інжынеры-інтэлігенты, усю нашу вялікую краіну і развалілі». Далей я выслухваў красамоўны партрэт інтэлігента і характарыстыку яго (чытай маіх) жыццёвых здольнасцяў.

Моладзь, прачытаўшы плакат, са словамі «Во дае дзядзька!» ад душы рагатала ці нават круціла ля скроні пальцам. Неўзабаве падышлі два маладыя хлапчукі з дзяўчынкамі з разраду «новых беларусаў». У шыкоўных кажушках, з цыгарэтамі «Мальбара»... Адразу азіраліся, ці не здымаюць гэтае «прадстаўленне» скрытай камерай, і толькі потым супакоіліся і, паверыўшы, што перад імі звычайны скарочаны з завода інжынер, з усмешкай падсумавалі: «Вучыўся, вучыўся, а зараз толькі акуляры і гэта (кіўком паказалі на плакат). Ну стой, стой, дрыжы як суслік, прафесар». Калі я пад маскаю экс-інжынера паспрабаваў «націснуць» на людскую жаласлівасць (стаў надакучліва лезці ў вочы з пытаннем: «Няўжо нават 100 рублёў не дасце?»), то адразу трапіў пад хвалю абурэння. «Жонцы на падарунак? Кідаць такіх мужыкоў трэба. Яна, напэўна, працуе, а ты што, на панель?»

Але ўсё ж такі жаночае сэрца не камень. Праз 15 хвілін нялёгкай «працы» да мяне падышла ўжо немаладая жанчына, у акуратным капелюшы, і паклала ў кепку тысячу рублёў. «Табе гэта наўрад ці дапаможа, але бяры, мілок, а лепей ідзі ты дадому. А то неўзабаве міліцыянеры падыдуць, палкамі паб'юць. Пойдзеш, праўда?» Я і сапраўды пачаў збірацца дахаты (чытай — у рэдакцыю), калі да мяне падруліў мясцовы «біч» з сінім носам і прапанаваў аб'яднаць нашы кашалькі. «Крышку зарабіў, інжынерык? Можа зробім на траіх? Які падарунак? Прымем па дзве-тры «соткі» для сугрэву. Прыйдзеш увечары дахаты і скажаш жонцы: «Лепшы твой святочны падарунак — гэта я!».

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**




**Алег ПАПОЎ:**

## «Я ІХ КАХАЎ, КАХАЮ... І БУДУ МАЛЯВАЦЬ»



Імя вядомага беларускага карыкатурыста Алега Папова прагрымела, не будзем залішне сціплымі, не толькі ў Беларусі. Чалавек-талент. Чалавек, які ў любых жыццёвых выпадках заўсёды ўсміхаецца. Які ніколі не сумуе (ва ўсякім разе, па карыкатурах гэтага не скажаш) і абавязкова знаходзіць месца ў сваёй творчасці для жанчын.

**— Дарэчы, Алег, а як вы пазнаёміліся са сваёй каханай палавінай?**

— Звычайна. Мне было чатыры гады, ёй — адзін. Жылі ў адным доме. А паколькі я быў крыху ленаваты, то і вырашыў, што недзе хадзіць і шукаць шчасце ў белым полі не варта — вунь пад бокам прыгажуня жыве. Пагутарылі, я сказаў, што кахаю, пажаніліся...

**— Што звычайна дорыце жонцы на 8 Сакавіка?**

— З гэтай нагоды, я вам раскажу адну гісторыю, што здарылася з маім сябрам у арміі. «Бегала» за ім адна дзяўчына. І вось напярэдадні жаночага свята яна пытае ў яго: «А што ж ты мне падорыш? Кветкі ці касметыку?» Той на поўным сур'ёзе: «Якія кветкі?! Сябе». У дзяўчыны вочы аж акругліліся і ў плач: «Гад! Таракан няшчасны! Значыцца я для цябе нішто!» А пасля паплакала, паплакала і, здаецца, зразумела, што «падарыць сябе» — гэта, бадай, такі падарунак, лепш за які і не прыдумаеш. Я, шчыра скажу, і жонцы, бывае, нагадваю гэтую гісторыю, калі вельмі ўжо грошай дамагаецца. А калі сур'ёзна, то, вядомая справа, абавязкова дару кветкі. Можа намалюю яшчэ яе...

**— З сямейнага жыцця тэмы для творчасці бераце?**

— Воз і маленькі вазок! Жонка, здараецца, нават жартуе, калі бачыць тыя ці іншыя карыкатуры: «Ага! Гэта карыкатурка з тваёй пазаўчарашняй «эпапеі», а вунь тая, каб не схлусіць, мінулагодняя». Усё памятае!

**— Дзеці — у бацьку?**

— Абсалютна. Сын вучыцца ў РТІ, дачка ў гімназіі — і ўсе з гумарам на сяброўскай назе. Так ужо прызвычаіліся. Нават з сабакам Торы, бывае, жартую.

**— Што пажадаеце жанчынам у іх свята?**

— Толькі адно — я іх кахаў, кахаю... і буду маляваць!

**Алесь СІВЫ.**






***Як вы адносіцеся да свята 8 Сакавіка? Якое месца яно займае ў вашым жыцці?***

**Ягор ХРУСТАЛЁЎ:**

— Вельмі несправядліва, што гэтае свята доўжыцца ўсяго толькі адзін дзень. Бо жанчыны чакаюць ад мужчын усялякіх падарункаў, прыгожых кветак. Але ім яшчэ больш прыемна, калі мы, мужчыны, у іх адрас «дасылаем» шмат цёплых слоў — што яны самыя абаяльныя і прыгожыя, што без нашых жанчын, нам, мужчынам, жыцця не будзе. Калі б гэты дзень святкавалі штомесяц, было б яшчэ весялей!

***— Што б вы пажадалі нашым жанчынам?***

— Я жадаю ўсім жанчынам завесці які-небудзь «раманчык»: на рабоце ці па месцы жыхарства. Каб яны адчувалі на сабе ўлюбёныя позіркі, любілі і былі любімымі. І былі яшчэ прыгажэйшымі.

**Вольга РАМАНЮК.**




**Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.**

***Футбол. Кубак Кубкаў***

## «ЛАКАМАТЫЎ» ЗАСТОПАРЫЎ АЕК

Вынікі першых матчаў 1/4 фіналу розыгрышу Кубка ўладальнікаў кубкаў па футболу:

АЕК (Грэцыя) — Лакаматыў (Расія) — 0:0
Славія (Чэхія) — Штутгарт (Германія) — 1:1
Рода (Галандыя) — Вічэнца (Італія) — 1:4
Бетыс (Іспанія) — Чэлсі (Англія) — 1:2
Сустрэчы ў адказ — 19 сакавіка.

## У МАГІЛЁВЕ ЗАТРЫМАНЫ БУЙНЫ КРЫМІНАЛЬНЫ АЎТАРЫТЭТ

**Лідэр буйной магілёўскай злачыннай групоўкі па мянушцы «Абдула» затрыманы супрацоўнікамі камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі па Магілёўскай вобласці.**

Яго банда абклала «падаткамі» буйнейшыя магілёўскія прыватныя фірмы і магазіны, напрыклад, папулярны ў горадзе універсам «Машэка». Сышчыкі падазраюць за групоўкай Абдулы некалькі распраў са смяротным зыходам.

Сам Абдула зусім не хаваўся, а жыў даволі шырока: яго добра ведаў абслугоўвы персанал вядучых магілёўскіх рэстаранаў, дзе Абдула, як правіла, не расплачваўся.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

# ЛЮБОВІ НАЦЯГНУТАЯ СТРУНА

**Неспазнаная душа жанчыны, духоўны свет жанчыны — вось бадай што, калі коратка, змест эсэ вядомай беларускай паэткі Антаніны Хатэнка. Эсэ складаецца з сямі частак, кожная з якіх у прынцыпе самастойная тэма, але ўсе разам яны — калейдаскоп жаночых сумненняў, узрушэнняў, здзіўленняў... Гэтае эсэ, на жаль, не было надрукавана, хаця яно вартае таго. Прапануем увазе чытачоў накіды гаворкі пра ліставанне да жанчыны Антаніны Хатэнка — своеасаблівы ўступ да паэмы-эсэ.**

УСЁ Ў СВЕЦЕ зладаванае гэтак, што прыцягненыя адно да аднаго мужчынскі і жаночы пачаткі абнаўляюць жыццё, твораць эвалюцыю няспынным процістаяннем, збегам процілегласцяў. Усё ў свеце жыве і дыхае любоўю — памкнёнасцю пазнаць сябе праз іншага, праз лучнасць-непарушнасць. Па сутнасці ёсць толькі адна неабвержная ісціна — цэльнасць, ядро Сусвету, непадзельнасць Любові. Некалі мы былі адным цэлым. І сёння мы адно цэлае — мужчына і жанчына разам. Але, каб адбылося адкрыццё гэтае цэльнасці, мы шукаем саміх сябе ў іншым. Здараецца, людзі знаходзяць тую самакаштоўную, незаменную палову. І тады... Тады кожная са спатканых паловаў стане выяўляць сваё непадабенства да іншай, сваю арыгінальнасць. Бо толькі гэтак збудзецца-здзейсніцца гармонія, тая чаканая, шуканая цэльнасць. Тады яе Вялікасць Любоў сатворыць дзіва-цуд — раскрыецца ў свет прыгажосць мужчыны і жанчыны, раскрыецца хараство злітнасці — духу і матэрыі, цела і душы, пачуцця і думкі.

Але якімі пакутнымі, пакручастымі дарогамі ідзём праз жыццё мы адзін да аднаго, ідзём да сябе існых, першасных і вечных. Як недарэчна блудзім, памыляемся, кідаемся ў роспач. Як недаравальна губляем час, моц і веру. І выпадаем, выкульваемся, як агаленыя арэхі са шкарлупіны-абалонкі, з руху эвалюцыі. Не патрапляем у сляды продкаў і наступнікаў. Не вышэем да Усясветнай Мудрасці, адарваныя лахманы Касмічнае Цэльнасці.

Смешна. Але вінавацім у сваіх блуканнях і расчараваннях найчасцей наўколле, стрэчных людзей. А шукаць усяго выток трэба ў сабе — і бяды, і радасці. Бо мы ёсць працяг і пачатак, і сцяжына ў будучыню. І толькі мы працаю душаў сваіх, зрокам сэрцаў сваіх будуем ці разбураем, знаходзім ці страчваем. І калі прыходзім мы на планету мужчынамі і жанчынамі, каб урэшце стаць новаю найвышшаю істотаю — Любоўю, — то і ролі ў нас тут свае, адметныя, важныя і значныя дзеля росту тае вечнае Любові. І барані нас Божа зблытаць гэтыя ролі, пераніцаваць касмічную тканку быцця. Не дай нам, Божа, парушыць адзіны ў Сусвеце закон — закон гармоніі, які валадарыць над намі, і над зоркамі, травамі, эрамі...

Скрушна. Але, здаецца, мы нешта ў сабе і наўкола сябе вельмі балюча паранілі. Бо не пазнаём адно ў адным жанчын і мужчын, бо не радуемся стрэчы гэтых двух мацерыкоў, а судзім, судзім, вінавацім. Пераўтвараемся паціху ў бясполыя, не напоўненыя памкненнем да Любові, шурупікі.

Я — жанчына. Я яшчэ памятаю сябе жанчынай на зямлі. Я — маленькая кропля ўсяе жаночае сілы, энергіі ў свеце. Я нарадзіла дачок. Усявышняя Мудрасць распарадзілася гэтак, каб я гадавала парасткі жаноцкасці ў свеце. Можа, мне дадзена праз дачок прыўнесці ў прастору і час болей таго тонкага святла, якое недзе схаванае ўва мне самой. Я ўглядаюся ў свет і ў сябе самую і жахаюся: чаму гэтак бязлітасна мы абыходзімся з сабою — з найвялікшым скарбам сусветнага бязмежжа.

Я лістую Жанчыне — не чужой незнаёмцы. Лістую сабе, зазіраючы ў закуткі свае свядомасці, адольваючы нанова, думкаю, свой шлях. Я спрабую прыадчыніць вечка таго запыленага куфра, дзе сталі змаўкаць традыцыі нашых прамаці. Я нітую прадзіва святла ад першажанчыны да сябе. Занадта самаўпэўнена? Але мяне вядзе вера. Вера, што Жанчына не знікла ў свеце, не набыла аблічча драпежніцы, але засталася тою найтонкаю струной, што будзіць Ясную, Відушчую Любоў. Мне бывае страшна належаць да злосных, крыкастых альбо шэрых прыгорбленых кабетаў, часцінкаю якіх я тут хаду, думаю, мару, люблю. І таму я цяжка, натужна пачынаю ўздымацца да самое сябе сутнае па прыступках, каб нарэшце сябе ўбачыць. І пайсці ў Цэльнасць. Я спазнаю ў сабе Здзіўленне, Шуканне, Сумненне, Запытанне, Узрушэнне, каб узняцца да Адкрыцця — да Адзіноты, якая раптам высветліць у душы надзею быць Сапраўднай. Якая прывядзе да прыступкі на Божай Лесвіцы, дзе прытоена жыве Маўчанне. А праз маё ўнутранае глыбокае маўчанне я дакранаюся да тае Таемнасці, якою і сама з'яўляюся ў бязмежным хуткаплынным свеце. У маўчанні, як у храме, я спасцігаю, што іду па зямным гасцінцы поруч з мужчынам не выпадкова. Што яму суджана будаваць гэты свет, надаваць яму рэальныя абрысы, вымалёўваць вонкавы выгляд, а мне — поўніць яго цеплынёй, святлом і верай, удыхаць Жыццё. Я хінуся да майго спадарожніка-дойліда ў спадзеве быць абяроненай, агорнутай, заслоненай, а ён давярае мне свой сэрцабой. І мы разам ляцім да зор.

**Антаніна ХАТЭНКА.**

# КРАСА І СІЛА



АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

Паверце, быць Паэтам не лягчэй чымсь быць Аратым. Уладзімір Жылка (1900—1933 гг.) як прыклад. Ён першы ў нашай літаратуры, хто засвойваў традыцыі еўрапейскага пісьменства пасля Максіма Багдановіча. Ды і не толькі ў літаратуры ён ішоў па слядах Багдановіча. Шмат у чым лёс паўтарыўся і ў жыцці. Тая ж хвароба на сухоты не дазволіла дажыць маладому паэту некалькіх месяцаў нават да Хрыстовага ўзросту. 1 сакавіка 1933 года ён так і сканаў на далёкай рацэ Вятцы, куды быў сасланы бальшавікамі, быццам бы за ўдзел у міфічным Саюзе вызвалення Беларусі.

А да высылкі вымушанае жыццё і вучоба ў Празе. Вяртанне на Бацькаўшчыну. У 1926 годзе Уладзімір Жылка прымае савецкае грамадзянства і, цікавы факт, працуе літсупрацоўнікам у «Звяздзе», пры якой гуртуе маладых пісьменнікаў-узвышаўцаў. Не апошнюю ролю ў станаўленні Жылкі як паэта і грамадзяніна адыграў Янка Купала, які сябраваў з ягоным бацькам і часта прыходзіў у Жылкаву хату. А вось як успамінае брат паэта Барыс Адамавіч пра адзін эпізод: «Уладзік сустрэў Купалу, яны прыселі і пачалі гутарыць, да іх падышоў Колас, і гутарка зацягнулася надоўга. Пасля Колас схамянуўся, падняўся, падышоў да Купалы і Уладзіка (яны сядзелі поруч), абняў іх, кожнага пацалаваў і сказаў: «Як я вас, браткі, люблю!»

Хворы паэт заўсёды паўтараў лацінскае выслоўе «Vibera memento!» — «Памятай пра жыццё!» Прагаю да жыцця прасякнута і ўся ягоная паэзія. У гэтыя дні ў кнігарні краіны ў серыі «Беларускі кнігазбор» паступае самы поўны том літаратурнай творчасці Уладзіміра Жылкі. Набывайце, чытайце і не пашкадуеце!

А зараз на свята жанчынам верш пра каханне.



**У. Жылка 1929 год.**

Уладзімір ЖЫЛКА.

## ВІНО ЗВІНІЦЬ

*Адно для нудных рэзанёраў*
*Віно разбаўліваць вадой.*
*Я светам недасяжных зораў*
*Гару іскрыста прад табой.*
*Я ў патаёмным церпкім хмелі*
*Падзіўна-весела таю*
*Табе, што завірухі пелі,*
*Надзею пэўную тваю.*
*У келіху, да краю поўным,*
*Чырвона-цёмнае, бы кроў,*
*Я клічу бачаннем чароўным*
*Да нездзяйснёных*
*думных сноў.*
*Прыйдзі і пі!..*
*Уваччу памершым*
*Зайграю бліскам маладым,*
*Каханнем незраўнана першым*
*Узрушу ў сэрцы залатым.*
*Праз лёс крывавы і лядачы*
*Я прывяду цябе к вясне...*
*О, усё згубіўшы да астачы,*
*Ты знойдзеш радасці ў віне!*

*1924*

**Анталогію вядзе Анатоль СЫС.**

# «А што ні кабета — Багіня!»

Наведаўшы ў свой час амаль усе рэспублікі былога СССР і некалькі дзяржаў Заходняй Еўропы, я вынес — для сябе — глыбокае перакананне: нідзе няма столькі прыгажунь, як у нас на Беларусі. Гэтаму, зрэшты, не пярэчыць і той факт, што жонку я вывез з Украіны... Памятаю, неяк цэлы месяц я чытаў курс лекцый па беларускай літаратуры ў Сафійскім універсітэце. Часта пасля заняткаў блукаў па шырокіх праспектах і бакавых вулачках балгарскай сталіцы. Па дарозе сустракаліся, як на мой густ, і прыгожыя жанчыны, але не больш як адна з дзесяці. Па дарозе дадому, у Маскве (а тады ўсе шляхі за мяжу вялі праз «сталіцу свету»), на вуліцы Горкага (цяпер — Цвярской) я налічваў ужо кожную пятую красуню. Назаўтра, калі ішоў роднай сталіцай, праспектам Францішка Скарыны (тады — Леніна), перад кожнай другою мінчанкай гатовы быў падаць на калені...

Канечне, у той час я быў значна маладзейшы. Але і цяпер застаюся пры той самай думцы. Хацелася б верыць, што гэтыя мае вершаваныя радкі ўспрымуцца нашымі беларускімі жанчынамі і як сардэчнае віншаванне з 8-м Сакавіка, і як адэкватна аб'ектыўная ацэнка іх знешняй, а таксама ўнутранай прыгажосці:

*Ні ў якіх пажарах,*
*Ні ў якіх залевах*
*Народ наш прыгожы*
*Не згіне,*
*Бо што ні дзяўчына ў нас —*
*Каралева,*
*А што ні кабета —*
*Багіня!*

**Абдымаючы і цалуючы ручкі ўсім мілым дамам —**
**Вячаслаў РАГОЙША,**
**акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі,**
**сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

## ЦЯГНІК ДЛЯ ДВАІХ ДА СТАНЦЫІ «ВЯСНА»

Юрась Выдронак, мастацкі кіраўнік гурта «Палац», апошні з пяці хлопцаў, хто быў яшчэ нежанаты. Але да прыходу вясны ён рыхтаваўся вельмі разважліва. А вынікам гэтай падрыхтоўкі стаў яго паход у ЗАГС са студэнткай беларускага аддзялення філфака БДУ, якую завуць Наташа, адкуль яны выйшлі з паперкай аб стварэнні сям'і. Уся цырымонія адбывалася вельмі сціпла, па рок-н-рольнаму ў звычайных джынсах і нават без пярсцёнкаў, бо у той жа вечар маладыя спяшаліся на цягнік. Вясельнае падарожжа яны вырашылі правесці ў Польшчы. (каб і самім было прыемна, ды і для студыі «Палац» карысна). Прыклад, які падаў прыхільнікам «Палаца» яго кіраўнік, найбольш красамоўна сведчыць аб тым, што вясною лепей быць ужо ўдваіх...

## АБРАЛІ «РАЗВІТАННЕ»...

На сцэнічнай пляцоўцы Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі («Вольная сцэна») пачаліся рэпетыцыі новага спектакля. Абраны твор вядомага беларускага драматурга Алены Паповай «Развітанне з радзімай». Дзеянне п'есы разгортваецца ў звычайнай гарадской кватэры, дзе збіраюцца старыя сябры. Ім усім каля сарака гадоў, але ж над імі пануе безвыходнасць. Жыццё быццам ідзе да скону. Навокал — адно расчараванне. Хто з іх паспеў хоць штонебудзь зрабіць на гэтай зямлі? Куды накіроўвае чалавека ягоны лёс? На гэтыя і іншыя пытанні спрабуе адказаць Алена Папова. Дарэчы, п'еса не выпадкова была абрана для пастаноўкі. «Развітанне з радзімай» атрымала другую прэмію на конкурсе драматычных твораў, які праводзіла Міністэрства культуры, і іншыя.

**Андрэй АХМЕТШЫН.**




Анатоль С. і Віктар Т.

# ВІНШАВАННІ

*У дзень нараджэння жадаем унучцы* **Алесі СЫМАНОВІЧ** *з г. Ліды доўгага, шчаслівага і раднаснага жыцця.*

**Бабуля і дзядуля Ігліцкія** з в. Суботнікі.

*Віншуем з 60-годдзем* **Івана Уладзіміравіча ЛЕЎЧУКА** *з в. Сялец Івацэвіцкага раёна. Жадаем здароўя, радасці і даўгалецця.*

**Сям'я Руткоўскіх**

**Шчыра віншуюць з днём нараджэння і жадаюць здароўя, шчасця, радасці, любові Уладзіміру Захаравічу КУРМАЗУ**, з нагоды 40-годдзя — жонка, дзеці, в. Скрыгалоў; **Станіславе Андрэеўне СУХАВЕР** з в. В. Раёўка Капыльскага раёна — дзеці, сваццця; любай **Тоні АЎЛАСЕНКА** з Гродна — муж Уладзімір; паважанаму **Аляксандру Пятровічу ДАБРЫЯНУ**, з нагоды юбілею — сям'я Чарнышоў са Слоніма; **Марыі Мінаўне РУДЗЕНІ** з в. Балотчыцы Слуцкага раёна з нагоды 55-годдзя — муж, дзеці, унукі; **Валянціну Зыгмундавічу МАРГЕВІЧУ** — мама, в. Літва Слонімскага раёна; **Зінаідзе Паўлаўне КРОТ** з в. Гольчыцы Слуцкага раёна з нагоды 65-годдзя — сын, нявестка, унукі; **Усціне Трафімаўне СУДАС** з нагоды 82-годдзя — дзеці, унукі, г. п. Астрына.

Калектыў газеты «Звязда» шчыра віншуе з днём 8 Сакавіка чароўных супрацоўніц **Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку, «Белсаюздруку», аб'яднання «Белпошта» і «Беларускага Дома Друку»**.

Вечнай вясны вам, прыгажуні!

*УСЛЕД ЗА ПАДЗЕЯЙ*

# ЧЫМ БОЛЕЙ ЗЛУЧАНЫХ ПАМІЖ САБОЮ ЛЮБОЎЮ ДУШ...

**Хто ж ёсць Дантэ Аліг'еры ў гісторыі беларускай літаратуры? Імя невядомае?.. Хаця, што ёсць усяго толькі адна нацыянальная літаратура ў параўнанні з Дантэ? «Боская камедыя» чужога, здавалася б, далёкага Беларусі паэта сталася прадметам ухвалы, ушанавання, наладжанага ў беларускай сталіцы Дзяржаўным камітэтам па друку, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, выдавецтвам «Мастацкая літаратура», пасольствам Італіі ў нашай краіне, таварыствам «Дантэ Аліг'еры».**

А сабралася грамада ў Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі не проста ўшанаваць Дантэ, яго неўміручы твор. Прыхільнікі італьянскай культуры, беларускія літаратары прыйшлі вітаць Дантэ, які загаварыў па-беларуску. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Скарбы сусветнай літаратуры» пабачыла свет «Боская камедыя». Пераклаў, пераўвасобіў яе Уладзімір Скарынкін.

Паэта і перакладчыка віталі Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Італіі ў Рэспубліцы Беларусь Джавані Чаруці, намеснік старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь пісьменнік Зіновій Прыгодзіч, сябры, блізкія Уладзіміру Скарынкіну людзі.

Высока адзначыў сам факт з'яўлення «Боскай камедыі» на беларускай мове народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Чатыры аспекты адзначыў ён у гэтай з'яве. Першы — грамадска-палітычны, дзяржаўны аспект. Збудаваны яшчэ адзін мост паміж Беларуссю і Італіяй. Другі аспект — культуралагічны, духоўны. Да беларускай культуры, літаратуры далучана адна з самых знакамітых кніг у гісторыі чалавецтва. Дантэ з гэтага часу ўваходзіць у духоўны свет беларусаў. Трэці — моўны аспект. Калі мова нейкага народа можа асвоіць такія творы, як «Боская камедыя», «Фауст», п'есы і санеты Шэкспіра, — значыць мова і сапраўды і развітая, і дасканалая. Чацвёрты аспект — творчы. Дасягненне перакладчыка. Працуючы над пераўвасабленнем «Боскай камедыі», Уладзімір Скарынкін прайшоў вялікія універсітэты.

А што ж Уладзімір Скарынкін... Услед за Дантэ ён прачытаў: «Чым болей злучаных паміж сабою Любоўю душ, — накшталт зяркал, яны Лепш азараюцца адна аднюю». І дадаў ад сябе: «Чым болей злучаных паміж сабой культур... тым болей узбагачаюцца яны паміж сабою».

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

# Старонка Паўла Глобы

## 8 сакавіка, нядзеля

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. У гэты дзень проціпаказаныя нагрузкі і актыўныя сілавыя дзеянні. Можна праводзіць сацыяльныя мерапрыемствы, падпісваць сур'ёзныя дакументы. Але захоўвайце асцярожнасць і ўважлівасць пры выкананні любой справы. Кідаць пачатае нельга, усё неабходна даводзіць да канца. Не варта купляць новыя рэчы, таму што яны хутка будуць старэць. Усе рамонтныя работы адкладзіце на іншы час. Нельга карыстацца колючымі і рэжучымі прадметамі. Проціпаказана забойства любой жывой істоты. Не сумуйце, старайцеся быць у прыўзнятым настроі. У гэты дзень можна паспаць даўжэй, чым звычайна.

**АДЗЕННЕ**. Аддайце перавагу сцёртым, шэрым тонам. Старайцеся не насіць галаўных убораў.

**ПРЫМЕТЫ**. Знайсці прадметы з жоўтага металу — знак праяснення заблытаных сітуацый. Калі гадзіннік стаяў і ў гэты дзень раптам запрацаваў ці вы пастаянна чуеце бой гадзінніка — знак нечаканай удачы і шчасця. Згубіць гузік ці штонебудзь з адзення — да пазбаўлення ад дрэнных знаёмстваў і ўсяго лішняга.

**СНЫ**. Лепш не бачыць сноў у гэты дзень. Калі вам іх сніцца шмат — значыць вы знаходзіцеся на няправільным шляху. Убачыць сябе голым азначае, што ваш шлях правільны. Убачыць у сне белы колер — знак нябачнага апякунства.

**МЕДЫЦЫНА**. Не праводзьце аперацый і працэдур, звязаных са страўнікам і малочнымі залозамі. Карысныя ачышчальныя працэдуры. Лячыце артрыты, падагру, касцявую сістэму.

**З усяго мноства незвычайных эпітэтаў, якімі калі-небудзь «узнагароджвалі» гэтае месца, чамусьці найбольш уражвае адзін — «куратнік». Аднак трэба заўважыць адразу, што гаворка зусім не аб нейкай асаблівай прывязанасці мясцовых жыхароў да свойскай птушкі і тым больш не аб традыцыйным для Усходняй Беларусі абліччы самога горада. Справа ў іншым. Як сведчаць старажытныя крыніцы, менавіта такім абразлівым словам ахрысціў у свой час Быхаў разлаваны ад уласнай бездапаможнасці старшыня казацкага войска Багдан Хмяльніцкі. Між тым, падставы для таго сапраўды былі...**

МЯСЦОВЫ ЧАС

# ТАМ, ДЗЕ СПЛЯЛІСЯ СТАГОДДЗІ

## НЕПРЫСТУПНЫ «КУРАТНІК»

Лічыцца, што сваё летазлічэнне Быхаў вядзе з 1430 года, калі, паводле пэўных звестак, мясцовыя жыхары падтрымалі абранне вялікім князем Свідрыгайлы. Аднак вядомасць прыйшла толькі больш чым праз стагоддзе. Узяўшы пад увагу стратэгічнае значэнне мястэчка (невялікая адлегласць ад усходняй мяжы, а таксама «прамежкавае» становішча паміж багатай паўночна-ўсходняй Беларуссю і вельмі ўжо неспакойнай Украінай), тагачасныя гаспадары Быхава, магнаты Хадкевічы, пачынаюць тут будаўніцтва спачатку драўляных умацаванняў. Пры наступных уладарах, Сапегах (з 1621 года), апісанні горада без перабольшання ўражваюць: амаль усё мястэчка, што размясцілася на высокім правым беразе Дняпра, было абнесена мураванай сцяной, з'явіліся высокі земляны вал і шырокія, за дваццаць метраў, равы. Быхаўская крэпасць набывае славу адной з мацнейшых у Рэчы Паспалітай, што і пацвердзілі далейшыя падзеі.

Выпрабаванні пачаліся адразу з пачаткам вайны 1654—1667 гадоў, калі пад сценамі горада з'явіліся казакі атамана Залатарэнкі. Нягледзячы на шматлікія ўгаворы, быхаўцы праявілі «гардыню і непакорлівасць д'ябальскую» і трывалі аблогу адзінаццаць тыдняў, пакуль у снежні 1654 года горад не раз блакіравалі войскі гетмана ВКЛ Януша Радзівіла. У маі наступнага года Залатарэнка вяртаецца сюды зноў — і зноў вымушаны адступіць. Трэцяя спроба напрыканцы таго ж 1655 года авалодаць крэпасцю мела і ўвогуле нечаканыя наступствы: падчас вылазкі быхаўцаў быў забіты сам Залатарэнка, пасля чаго казакі ўцяклі ва Украіну, а злы Хмяльніцкі, не саромеючыся ў выразах (адсюль і «куратнік»), паслаў Быхаву праклён... Праўда, праз тры гады казакі ўсё ж узялі горад, але да гэтага ён трымаўся ў поўным атачэнні ні многа ні мала — 18(!) месяцаў. Факт калі не унікальны, дык варты ўвагі.

Адметнай у гісторыі горада была і Паўночная вайна. Падчас яе Быхаў двойчы (кожны раз пасля працяглай абароны) пераходзіў з рук Карла XII і яго стаўленіка Станіслава Ляшчынскага да саюзных войскаў караля Аўгуста і цара Пятра І. Нарэшце ў 1707 годзе пятроўская армія заняла крэпасць і заставалася ў ёй аж сем гадоў. Аднак вынік знаходжання рускага гарнізона ў Быхаве аказаўся даволі трагічным: баючыся, што месца можа яшчэ калі-небудзь паўстаць супраць іх, царскія войскі «на развітанне» вырашаюць разбурыць гарадскія брамы і ўзарваць умацаванні.

Крэпасць аднавіцца не здолела, занядаў і сам горад. Дастаткова сказаць, што пасля далучэння гэтых зямель да Расійскай імперыі Быхаў нейкі час лічыўся нават «пазаштатным». Балазе нядоўга. І тым не менш, ганарыцца нейкай адметнасцю быхаўцы ўжо не маглі. Так, напрыканцы мінулага стагоддзя горад меў усяго каля шасці тысяч жыхароў, два прадпрыемствы — па вырабу запалак і цэглы, крупадзёрку, павятовае і прыходскае вучылішчы, тры царквы і сінагогу — словам, «набор» амаль што стандартны. Адно, як напамін, аб славутым мінулым, застаўся стары гарадскі герб: на ім на фоне чырвонага поля перакрыжаваліся дзве гарматы.

## УЧОРА І СЁННЯ

Наведаць Быхаў сёння варта хаця б для таго, каб пабачыць сапраўдны бівень маманта. Жарты жартамі, але што ёсць, тое ёсць: бівень знаходзіцца ў мясцовым краязнаўчым музеі. Памацаць, вядома, не дадуць, але памяць усё роўна застанецца.

Увогуле, пэўныя ўяўленні складваюцца адразу, калі ступаеш на перон чыгуначнага вакзала. У тым, што гэта далёка не «вялікая вёска», а якраз горад, пераконваешся даволі хутка. Дастаткова трапіць у цэнтр, які нават пры жаданні ніяк нельга назваць узорам «хрушчоўска-брэжнеўскага» горадабудаўніцтва. І не так важна, што гэтыя невялікія, у некалькі паверхаў домікі, з'явіліся толькі ў пасляваенны час. Больш істотна, што дзякуючы ім Быхаў мае ўласны твар, а гэта ці не галоўнае.

Аднак самае цікавае чакае наперадзе. Колькі соцень метраў уздоўж галоўнай гарадской вуліцы — і паўстае напаўразбураны прамавугольнік былой сінагогі. Крыху ўправа — і перад вамі драўляная праваслаўная царква, у якой беражліва захоўваецца самая вялікая святыня гэтага краю — цудадзейная ікона Баркалабаўскай Маці Боскай. Яшчэ наперад — і як быццам пачынаеш пазнаваць: «той самы» земляны вал, прыметы колішніх равоў, рэшткі «тых самых» муроў, што (напэўна, як і сотні гадоў таму) грозна пазіраюць на зусім недалёкі Днепр...

Зрэшты, наўрад ці трэба казаць пра цяперашні Быхаў як пра горад, які адарваўся ад часу і цывілізацыі. Хутчэй наадварот, і сведчаннем таму сучасныя паркі, «супермаркеты» і даволі шпаркі рух на вуліцах.

Карацей, з мясцовых малюнкаў кожны можа адзначыць менавіта тое, што палічыць патрэбным. Але ўсё роўна гэта будзе Быхаў — горад, дзе, здаецца, спляліся стагоддзі.

## НОВЫЯ ВЫПРАБАВАННІ

Быхаўскі раён вылучаецца ўжо тым, што зараз ён самы вялікі на Магілёўшчыне. Сам жа горад заўсёды меў іншую (вось дзе ўжо сапраўды: традыцыі і сучаснасць) асаблівасць — вайскоўцаў. Прошлы час у дадзеным выпадку дарэчы, бо ваенныя лётчыкі некалькі гадоў таму перадыслацыраваліся ў Расію. Але вайсковы гарадок, натуральна, нікуды не «знік», прычым зараз у ім жыве амаль трэцяя частка ўсяго насельніцтва 25-тысячнага Быхава.



Тут не хаваюць, што ў свой час перспектыве своеасаблівай «інтэграцыі» былога гарнізона ў горад ўзрадваліся не вельмі. Аднак лішнія клопаты апраўдаліся, як кажуць, спаўна, і, у рэшце рэшт, Быхаў атрымаў яшчэ адзін дзіцячы садзік, лазнева-пральны камбінат, спарткомплекс. Бліжэйшыя планы не менш значныя: скажам, будынак штаба дывізіі хутка павінен стаць школай мастацтваў, Дом афіцэраў — школай дзіцячай творчасці. Але найбольш адметным усё ж падаецца праект пераабсталявання казармаў у звычайныя жылыя дамы. Апошняе, між тым, актуальна для Быхава ўдвая.

Як ні прыкра, але абмінуць гэта таксама нельга: старажытную Быхаўшчыну «накрыла» пляма Чарнобыля. Забруджаным (ад 1 да 15 кюры) аказаўся ўвесь раён, вёску Аляксандраўка, што на паўднёвым усходзе, давялося нават адсяляць. На гэтым, аднак, не скончылася — спачатку Быхаўшчына перастала вабіць у якасці любімага месца адпачынку магіляўчан (адсюль да абласнога цэнтра кіламетраў сорак — нейкіх паўтары гадзіны на дызелі), потым пачалі з'язджаць мясцовыя жыхары.

Аднак зарыентаваліся тут даволі хутка. Наладзілі жорсткі кантроль за прадуктамі харчавання, пачалі больш увагі ўдзяляць аздараўленню, да ліпеня, як чакаецца, у Быхаў павінны прыйсці прыродны газ, а з ім і значна палепшыцца агульная сітуацыя з экалогіяй. Толькі, відаць, у гэтых варунках пераважна спрацаваў прынцып: будзе жыллё — будуць і людзі. Вынікі відавочныя, бо зараз сюды зноў пачынаюць вяртацца былыя студэнты. Так што, мяркуючы па ўсім, балючае да нядаўняга часу пытанне — быць або не быць? — для Быхава як быццам ужо не існуе. Прынамсі, у тое хацелася б верыць.

**Сяргей ГРЫБ.**

НАДЗЁННАЕ

Яўген КАСПЯРОВІЧ:

# «ПЕНСІЙНАЯ РЭФОРМА Ў БЕЛАРУСІ НЕПАЗБЕЖНАЯ»

**Пенсійныя рэформы, якія ў апошнія дзесяцігоддзі прайшлі ў розных краінах, суправаджаліся шырокімі абмеркаваннямі, вострымі дыскусіямі. Надыходзіць час для Беларусі.**

**У Мінску прайшоў семінар «Асноўныя напрамкі рэфарміравання пенсійнай сістэмы ў Рэспубліцы Беларусь». Арганізатар семінара — праграма Інстытута эканамічнага развіцця Сусветнага банка па праблемах рэфарміравання сацыяльнай палітыкі ў Беларусі. З яе кіраўніком Яўгенам Каспяровічам гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса».**

**— Яўген Аляксандравіч! Раскажыце, калі ласка, чаму, на ваш погляд, неабходна прынцыпова мяняць дзеючую цяпер у рэспубліцы пенсійную сістэму? Можа быць, уся праблема толькі ў тым, што краіна яшчэ не выйшла са стану эканамічнай і фінансавай нестабільнасці?**

— Неабходнасць рэфарміравання ў любой галіне адчуваецца ўсякі раз, калі старыя парадкі і механізмы выяўляюць хранічныя збоі, а тым больш пачынаюць працаваць з адмоўным эфектам.

Што датычыцца пенсійнай сістэмы, дык пра яе эфектыўнасць часта па велічыні выплачваемых пенсій і гавораць, што на гэта ўплывае эканамічная і фінансавая сітуацыя...

**— А хіба гэта не так?**

— Так. Але мы гаворым толькі пра ўплыў агульнай эканамічнай сітуацыі і нічога не гаворым пра саму пенсійную сістэму, наколькі яна добрая ці дрэнная.

Хачу падкрэсліць, што пенсіі, як і зарплата, ёсць сістэма, якая сама сябе забяспечвае. Людзі непасрэдна, ці праз прадпрыемствы, наймальнікаў робяць адлічэнні, узносы і фарміруюць пенсійныя фонды, г. зн. свае будучыя пенсіі.

**— Гэта азначае, што пенсійная справа павінна будавацца па прынцыпу «што зарабіў, заплаціў, тое і атрымай»?**

— Так, у аснове тут ляжыць працоўны прынцып. А таму галоўная праблема — эканамічна рацыянальна і справядліва арганізаваць гэтую справу.

Нездавальняючае становішча з пенсійным забеспячэннем выяўляецца не толькі і не столькі ў вельмі невысокіх пенсіях, выкліканых часовымі эканамічнымі цяжкасцямі краіны, колькі ў значнай неадпаведнасці таго, што людзі ўклалі ў пенсійную сістэму і што з яе атрымліваюць.

Прывяду толькі адзін разлік. Усё дарослае жыццё людзей падзяляецца на працоўную дзейнасць і пенсійны перыяд прыкладна ў суадносінах 2/3 да 1/3 (скажам, 36 і 18 гадоў). Калі б дзейнічаў прынцып скарбонкі: што закінуў, тое і выцягнеш, — дык для забеспячэння пенсійнага ўтрымання, раўнацэннага бягучай зарплаце, стаўка адлічэнняў у пенсійны фонд павінна была б складаць 33 працэнты (1/3) ад зарплаты. Але вядома, што пенсіі заўсёды ніжэйшыя за зарплату і складаюць у розных краінах ад 35 да 65 працэнтаў ад яе. У Беларусі — 38 працэнтаў. Па нашых разліках, патрэбная стаўка адлічэнняў на сацыяльнае страхаванне па частцы пенсій павінна складаць 21—23 працэнты. Між іншым, гэта сярэдні паказчык па краінах са стабільнай пенсійнай сістэмай. У яго маглі б укласціся і мы. Аднак у нас склалася так, што людзі плацяць двайную цану, атрымліваючы больш чым сціплыя пенсіі.

**— Чаму ж так?**

— Справа ў тым, што наша пенсійная сістэма — не накапляльная, а размеркавальная, г. зн. няма індывідуальных рахункаў-накаплянікаў, а значыцца і самога працэсу накаплення. Ёсць агульны кацёл, у які паступаюць бягучыя адлічэнні ад бягучай зарплаты. Плацяць адны, а атрымліваюць другія. Такую схему пенсій часта называюць «салідарнай»...

**— Вы хочаце сказаць пра ўраўнілаўку ў пенсійных выплатах?**

— Гэтая хвароба лечыцца ў рамках самой сістэмы. Існуе шведскі вопыт, калі пад бягучыя пенсійныя адлічэнні падкладваюцца персанальныя рахункі работнікаў. Наша пенсійная рэформа прадугледжвае ўвядзенне працоўных пенсій і персаніфікацыю рахункаў...

Але ёсць і невылечныя недахопы салідарнай сістэмы.

Першы — яе залежнасць ад бягучага становішча спраў у эканоміцы. Можна быць стаханаўцам і вельмі акуратным пайшчыкам, а ў выніку атрымаць пенсійны мізэр, паколькі ў дзяржаве ў гэты момант нізкая зарплата і крызіс плацяжоў.

Другі недахоп — залежнасць сістэмы ад суадносінаў працуючых у эканоміцы і пенсіянераў. У апошнія дзесяцігоддзі яны ў нас, на жаль, пастаянна скарачаюцца і сёння складаюць усяго толькі 1,6 да 1. Да чаго гэта вядзе — зразумела.

Трэці недахоп — сістэма адкрытая для ўраўняльных маніпуляцый. 17 працэнтаў пенсіянераў па ўзросту ў нас атрымлівае льготныя пенсіі. У мінулым годзе амаль 23 працэнтам пенсіянераў былі аформлены датэрміновыя пенсіі. 15 працэнтаў пенсійных сродкаў выплачваецца працуючым пенсіянерам адначасова з выплатай зарплаты. З пенсійнага фонду ў нас ідуць страхавыя выплаты па інваліднасці і страце карміцеля, якія не маюць ніякага дачынення да пенсій па ўзросту.

**— Вы прапануеце ліквідаваць пенсійныя льготы і іншыя названыя выплаты?**

— Я не супраць таго, каб дзяржава забяспечвала прывілеі заслужаным грамадзянам за асаблівыя ўмовы працы, а тым больш аказвала падтрымку пацярпелым. Але ўсё гэта павінна фінансавацца з іншых крыніц, а не за кошт агульных адлічэнняў на пенсійнае страхаванне.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— Калі дзяржава і надалей будзе займацца такім перадзелам пенсій, дык з улікам рэальнага прагнозу сніжэння суадносінаў занятых і пенсіянераў, утрымаць планку 35 працэнтаў ёй не ўдасца. Праз якіх-небудзь 20 гадоў яна можа падскочыць да 45 працэнтаў і вышэй. Ці, магчымы варыянт, што пры той жа стаўцы адлічэнняў на сацстрах нашы пенсіянеры будуць атрымліваць на столькі ж меншыя пенсіі. Гэта стане проста непасільным для працуючых і для эканомікі ў цэлым.

Такі прагноз выдае непрадузятая камп'ютэрная мадэль пенсійнага забеспячэння, у якую дастаткова карэктна закладзены асноўныя параметры і дынамічныя паказчыкі цяперашняй пенсійнай сістэмы Беларусі.

**— У ліку галоўных непапулярных мераў, якія могуць быць унесены ў наша пенсійнае заканадаўства, асаблівае месца займае павышэнне пенсійнага ўзросту...**

— Гэта тэма стала перашкодай і выклікае насцярожаныя адносіны сярод асоб пенсійнага і перадпенсійнага ўзросту, паколькі ўспрымаецца як спроба забраць права на існуючы пенсійны ўзрост і пенсійнае забеспячэнне. Не ўлічваць гэтага нельга. Але і не гаварыць пра гэта таксама.

Тая ж камп'ютэрная мадэль пенсійнага забеспячэння паказвае, што адно толькі павышэнне пенсійнага ўзросту нашых грамадзян на 5 гадоў паніжае стаўку адлічэнняў на сацыяльнае страхаванне на 30 працэнтаў, ці пры той жа стаўцы на столькі ж павышае пенсійныя выплаты. Вось чаму вельмі многія развітыя краіны, для якіх уласціва старэнне насельніцтва, павысілі пенсійны ўзрост на 5 гадоў і больш.

**— Але ж там і працягласць жыцця значна вышэйшая. У нас жа яна падае, і многія, прабачце, могуць проста не дажыць да «шчаслівай будучыні».**

— У падобных меркаваннях прысутнічае некаторая блытаніна. Калі размова ідзе пра працягласць жыцця, дык маецца на ўвазе сярэднестатыстычны паказчык па ўсіх узроставых групах. Фактычная ж працягласць для кожнай групы свая і павышаецца з пераходам да больш высокай узроставай катэгорыі. Г. зн. у цэлым працягласць жыцця асоб пенсійнага і перадпенсійнага ўзросту значна вышэйшая, чым сярэдняга, а тым больш малодшага ўзростаў. І калі мы гаворым, што за апошнія 10 гадоў сярэдняя працягласць жыцця грамадзян Беларусі знізілася на 2 гады, гэта зусім не значыць, што пенсіянеры на столькі ж сталі жыць менш. З аздараўленнем умоў жыцця паказчыкі сярэдняй і фактычнай працягласці, натуральна, павысяцца.

**— Значыць, для паспяховага ажыццяўлення рэформы неабходна ліквідаваць неабгрунтаваныя выдаткі і павысіць пенсійны ўзрост, — я правільна зразумеў?**

— Гэта — толькі меры па аблягчэнню і рацыяналізацыі канструкцыі, якая абапіраецца на стары фундамент. Але неабходна і час ужо думаць і пра новы фундамент — пра накапляльныя пенсіі.

Канцэпцыя рэформы пенсійнага забеспячэння ў Беларусі, акрамя сацыяльнай і працоўнай пенсій, прадугледжвае таксама стварэнне добраахвотных (дадатковых) пенсійных планаў, заснаваных на накапляльным прынцыпе.

**— А мы не атрымаем тым самым новыя «МММ»?**

— Такая рызыка патэнцыяльна існуе. Яе нельга выключыць, але можна звесці да прымальнага ўзроўню. Механізмы страхавання ў свеце добра адпрацаваныя: гэта — ліцэнзаванне пенсійных кампаній, заканадаўча-нарматыўная рэгламентацыя іх дзейнасці, інвестыцыйнага працэсу, арганізацыя дзяржаўнага нагляду, фінансавай і бухгалтарскай справаздачнасці, страхаванне пенсійных актываў.

*Прэм'ера*

# ДЫК ЧАМУ Ж ПАМЕЛА — ДАРАГАЯ?

«Дарагая Памела» — так называецца новы спектакль Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь. І хаця Памела не аперэтачная прымадонна, а падслепаватая бабулька, што жыве ў старым дамку сярод смецця і павуціння, яна становіцца дарагой для ўсіх навакольных. Дарагой не толькі з-за чуласці свайго сэрца, але і з-за сумы страхоўкі, у якую ацэнена яе жыццё. Канву сюжэта складаюць ваганні яе выпадковых кватарантаў-«кампаньёнаў» паміж двума значэннямі слова «дарагая»: няўдалыя спробы «прышыць» старую, імітуючы няшчаснае здарэнне, шчыра перамяжаюцца выбухамі сумненняў-сумлення.

У дачыненні ж да ўсяго спектакля слова «дарагая» набывае дадатковы змест, бо прэм'ера адразу стала ў лепшым сэнсе дарагой як для тэатра, так і для гледачоў. Тэатр даражыць спектаклем у першую чаргу таму, што «Дарагая Памела» абышлася яму адносна танна. У аснову была пакладзена музычная камедыя М. Самойлава, напісаная на пачатку 70-х. Улічваючы, што былы расійскі кампазітар сёння ходзіць па Брадвею, аўтарскі ганарар яму не планавалі. Ну а стылістычную састарэласць музыкі пераадольвалі вельмі проста: знакамітаму беларускаму музыканту, аранжыроўшчыку і кампазітару У. Ткачэнку заказалі апрацоўку, якая надала прымітыўным песенькам напружанасць рытмаў, тэмбравую драматургію. І хаця музычны бок узмацніўся мелодыямі з іншых твораў таго ж Самойлава, атрымаўся звычайны драматычны спектакль. Тым больш, што літаратурна-сцэнічная рэдакцыя, зробленая рэжысёрам-пастаноўшчыкам Б. Утаравым, максімальна наблізіла лібрэта В. Валавога і Ю. Дынава да першакрыніцы — п'есы амерыканскага драматурга Дж. Патрыка.

Але ж тэатр даражыць «Памелай» яшчэ і таму, што пастаноўка мае фармальныя рысы мюзікла і такім чынам адпавядае накіраванасці менавіта музычнага тэатра. На жаль, ні музыка, якая, да таго ж, часам ідзе ў фанаграме, ні харэаграфія У. Іванова не дадаюць нічога новага — ужо хаця б таму, што тэкст п'есы самадастатковы і не патрабуе музычна-пластычнай ілюстратыўнасці. Затое спектаклем даражаць акцёры, бо ён дазваляе ім вызваліцца ад аперэтачных штампаў і паспрабаваць сябе ў сапраўднай драматургіі характараў.



Наталля ГАЙДА і Арнольд РАНЦАНЦ. Фота Віт. АМІНАВА.

Менавіта псіхалагічная дакладнасць, адсутнасць звыклых масак-амплуа робяць спектакль дарагім для гледачоў. Асабіста ж для мяне ён дарагі яшчэ і тым, што дасціпна дэманструе крызіс сучаснага музычнага тэатра дэмакратычнага кірунку. Калі тэатр драматычны ўсё болей схіляецца да музычна-пластычных кампазіцый, дзе сама цішыня натолена пульсуючай думкай, дык тэатр музычны спыніўся ў разгубленасці. На Захадзе аперэтачная стылістыка змянілася мюзіклам, рок-операй, у былой савецкай дзяржаве — вадэвільна спрошчанай музкамедыяй. Спробы выйсці за яе межы застаюцца пакуль адзінкавымі. Так і з «Дарагой Памелай»: крочачы ад музкамедыі да мюзікла, яе стваральнікі прыйшлі да драмспектакля. І, як ні дзіўна, пасля да болю традыцыйных пастановак апошніх гадоў гэты крок дарагі хоць такім адыходам ад аперэтачнага правінцыялізму. Які ж крок — наступны?..

**Надзея БУНЦЭВІЧ.**

*Асабістае*

# МОЖНА СТАЦЬ ЛЕГКАКРЫЛАЙ ПТУШКАЙ

**Як сказаць пра гэта? Ці можна ўвогуле нешта сказаць, каб цябе зразумелі? Часам здаецца, што людзі вымаўляюць словы для таго, каб неяк запоўніць пустэчу вакол сябе. «—А-а-а...» —б'ецца аб сцяну рэха ўласнага голаса. Смешнае: спадзяецца збегчы ад мяне. Ну хіба што не адумаўшыся своечасова, выскачыць з гарачкі ў фортку, а там разляціцца на асобныя гукі, якія самі па сабе нічога не нясуць. Напэўна, яно так раз'юшана рвецца на волю, таму што самога сябе яму ўжо мала. А мне?**

А мне ўсё роўна. Толькі скразняк надакучыў. Вось у чым справа — фортку ж я не зачыніла, на імгненне пазбавіўшы сваё рэха кантролю. А сябе?

Нейкі жудасны спакой. Аднойчы заўважаеш, што ўжо не прычыняюць болю ні дробязныя крыўды, ні абразы, ні нават вялікія непрыемнасці. Штодня мяне да іх прывучалі. Цяпер усё нармальна... Калі б гэта сапраўды была ўнутраная самаабарона, якая арганічна спалучылася з душой!.. Затое можна спакойна выносіць любыя паскудствы і здрады. Сучасную жанчыну можна прывучыць выносіць усё. Пры гэтым знаходзіцца ў знак апраўдання добры выраз, які адразу ператварае у філосафа таго, хто яго прамаўляе: «Важна не здрадзіць самаму сабе». А калі сябе ўжо не засталося? І сэрца назаўсёды пасябравала з сумам? Паспрабуйце жыць разам з ім, гэта лёгка, лягчэй, чым прыстасоўвацца да чужога характару і звычак. Праўда, бывае жаданне яго ўзненавідзець, прагнаць. Але непатрэбныя словы побач зноў і зноў раздражняюць яго джала, і сум кусае мацней, здаецца, яго атрута трапляе ў кроў. Словы — спагадлівыя, спачувальныя, з целем разумення... Што можа быць большым глупствам, чым спроба лячыць чалавека, супастаўляючы свае і яго складанасці? Любыя, нават вельмі падобныя сітуацыі ўсё роўна унікальныя. А пустэча адна на ўсіх. Людзі навучыліся шчодра дзяліцца ёю адзін з адным. А што, нармальна: ты нікому нічога дрэннага — і табе ніхто нічога добрага.

Вось толькі часам нечаканы дождж напомніць, як яшчэ нядаўна мокрыя рукі імкнуліся злавіць гэтыя нябачныя сувязі з небам. У вачах, быццам у калейдаскопе, успыхвалі каляровыя агеньчыкі парасонаў. Цёплыя ўсмешкі ахутвалі прамоклую постаць з разуменнем: дзяўчына павінна быць узнёслай, рамантычнай і злёгку закаханай.

Але потым дождж ператварыўся ў занудлівы лівень, а мазаіка з калейдаскопа рассыпалася і цяпер агідна рыпіць пад нагамі. Няхай рыпіць — мяне ўжо не раздражняюць слабыя водбліскі жыцця ў гэтым шкле. Няхай глядзіць на яго нехта іншы, магчыма, не палянуецца, падбярэ, паспрабуе склеіць. І зноў будзе штурмаваць маю пустэчу. Што сказаць у адказ? Шкло як шкло — нічога асаблівага.

Так можна было жыць доўга. Толькі нядаўна у адкрытую фортку раптам уляцела птушачка. Знайшла месца, дзе схавацца ад холаду і дажджу. Маленькая, але так гучна заціўкала, што звычайны пакой з шэрымі сценамі ператварыўся ў канцэртную залу, дзе ўсё пачало зіхацець і з кожным новым гукам напаўняцца чароўным сэнсам жыцця. Ненармальная! Як жа яна ўсё парушыла — звычайны бег хвілін падаўся ўрачыстым маршам. Ды яшчэ так заўзята ціўкае, быццам збіраецца адпомсціць за былыя гады душэўнага маўчання, быццам вінаваціць у бясколернасці і спустошэнні. Паціўкала — і паляцела. Але што цяпер рабіць? Так, як яна, — насуперак усялякай логіцы — існаваць ужо не атрымаецца. Але, пачуўшы выратавальны покліч самой Вясны, вяртацца ў пустэчу ўжо не хочацца.

Добра быць легкакрылай птушачкай — і ў непагадзь , і ў цеплыню цярпліва пазіраць на людзей, якія закопваюцца ў неразбярыху, імкнучыся вывесці ўласную формулу шчасця. А калі ўсе стомяцца спрачацца — ці ёсць яно, шчасце? — заціўкаць на ўвесь свет і ўзмахнуць крыламі. Ці можа быць довад больш пераканаўчы? Довад на карысць Вясны.

**Ларыса СЕРАФІМАВА.**

*Усходні гараскоп на наступны тыдзень*

## Рыбаў чакае павышэнне па службе, а Блізнят — рамантычныя прыгоды, якія закончацца вяселлем

У КАЗЯРОГА будзе шмат дадатковай работы, з-за якой давядзецца адкласці сямейныя ўрачыстасці і іншыя святы ў асяроддзі сяброў. Праца, аднак, не перашкодзіць вам заняцца набыццём нерухомасці і ажыццяўленнем даўняй мары — будаўніцтвам уласнага дома. На гэтым тыдні чакаецца атрыманне дывідэндаў, якія лепш за ўсё патраціць на пакупку тэлевізара ці відэамагнітафона.

ВАДАЛЕЙ абрадуецца стану сваіх фінансавых спраў. Удала заключаная здзелка прынясе вялікі даход. Намечаныя планы ў бізнесе абавязкова здзейсняцца. Вам давядзецца паспяшацца з выкананнем важнай работы і пачаць пошук новых дзелавых партнёраў. Адзінокім выпадзе ўдача, і яны не толькі трапяць у вір рамантычных прыгод, але і знойдуць чалавека, з якім звяжуць лёс.

РЫБЫ атрымаюць павышэнне па службе ці заслужаць узнагароду начальства. У цэнтры ўсеагульнай увагі апынуцца людзі творчых прафесій, выкладчыкі і грамадскія дзеячы. Вы наладзіце кантакты з дзяржаўнымі арганізацыямі, што вельмі дапаможа вашаму бзнесу. Планеты спрыяюць заняткам спортам і вучобе, апякаюць студэнтаў, якія паспяхова здадуць усе экзамены і вытрымаюць іншыя выпрабаванні.

АВЕНЫ павінны не адрывацца ад руціннай працы і забыць пра новыя інвестыцыі ў бізнес. Амбіцыйныя дзелавыя аперацыі не прынясуць поспеху, а могуць прывесці да непажаданага выніку. Вас чакаюць фінансавыя праблемы, напярэдадні з'яўлення якіх неабходна вельмі асцярожна абыходзіцца з грашыма. У асабістым жыцці таксама з'явіцца нямала цяжкасцяў.

ЦЯЛЬЦЫ страцяць шмат грошай, калі будуць імпульсіўна і непрадумана дзейнічаць у бізнесе. Часцей прыслухоўвайцеся да думкі больш вопытных партнёраў, нават калі вам падпарадкоўваюцца. Спакойна выслухвайце крытыку ў свой адрас і не шукайце канфлікту з калегамі. Сябры дапамогуць пераадолець цяжкасці.

БЛІЗНЯТ чакае ва ўсіх адносінах паспяховы тыдзень. Вы атрымаеце важную інфармацыю, якая датычыцца выканання новага дзелавога праекта. Распачынаючы яго, вы сутыкняцеся з некаторымі праблемамі, якія ўдасца лёгка пераадолець. Павышэнне па службе, новыя вжныя знаёмствы з уплывовымі асобамі таксама не абмінуць вас. Даволі магчымыя падарожжы за мяжу і новыя рамантычныя прыгоды, адно з якіх прывядзе да вашага вяселля.

РАК пачне падрыхтоўку да важнай замежнай дзелавой паездкі, якая абяцае новыя перспектывы ў бізнесе. Партнёрскія адносіны, пачатак якім будзе пакладзены на гэтым тыдні, абяцаюць быць даволі выгаднымі. Дывідэнды прынясуць рызыкоўныя аперацыі на рынку каштоўных папер.

ІЛЬВОЎ падпільноўвае шмат сюрпрызаў і мноства важных перамен. Вы здолееце абысці сваіх сапернікаў у бізнесе, заключыўшы важную выгадную здзелку з новымі партнёрамі. Перад сціплымі служачымі адкрыюцца шырокія перспектывы ў кар'еры. Паездка за мяжу абяцае сустрэчу з цікавым чалавекам. Ён зможа ўнушыць вам упэўненасць ва ўласных сілах і здольнасць спакойна глядзець на ценявыя бакі быцця.

ДЗЕВА здзівіцца выдатным вынікам нядаўна адкрытага бізнесу. Вялікія дывідэнды абяцае падпісанне новага кантракта. Значны даход атрымаюць тыя, хто звязаны з марскімі транспартнымі і гандлёвымі аперацыямі. Служачых сумесных кампаній чакае стажыроўка за мяжой. Поспех чакае новыя публікацыі гісторыкаў і пісьменнікаў, а ваеннаслужачым выпадзе атрымліваць ордэны і падзякі бацькоў-камандзіраў.

ШАЛІ атрымаюць выгаду ад дзелавых адносінаў з партнёрамі. Выдатнае фінансавае становішча дазваляе зрабіць падарожжа па магазінах і набыць нешта шыкоўнае. Важныя дзяржаўныя мужы дапамогуць прасунуцца ў палітыцы тым, хто марыць пра гэта. Сваякі пасадзейнічаюць вашаму прасоўванню ў кар'еры. Яны ж могуць супраціўляцца планам адзінокіх узяць шлюб. Планеты раяць не спрачацца з роднымі, але пры гэтым не адмаўляцца ад сваіх задум.

СКАРПІЁНЫ адчуюць вялікую стомленасць ад празмернага ўдзелу ў справах. У такім стане лепш не заключаць новыя кантракты і не спрабаваць пашырыць бізнес. Рабочым неабходна быць больш уважлівымі на вытворчасці, а бізнесменам не імкнуцца падмануць падатковую інспекцыю, нават калі для ўплаты ў казну няма сродкаў.

СТРАЛЬЦЫ змогуць акунуцца ў радасную атмасферу, якую створаць поспехі ў бізнесе. На гэтым тыдні вас будзе акружаць рамантычная абстаноўка, ускружыць галаву каханне і захопіць пачуццё неабдымнай свабоды. Планеты абяцаюць мноства святаў і розных вясёлых мерапрыемстваў,.

**Леанід КОТАЎ,**
**кар. ІТАР-ТАСС.**

*Хочаце —верце...*

# У ЛОЖКУ З ЗАДЫЯКАМ

Дзелавыя і энергічныя жанчыны, сярод якіх большасць нарадзіліся пад вогненнымі знакамі задыяка **(Леў, Авен, Стралец)**, вельмі няпростыя. Яны могуць лёгка закахацца, але гэтак жа лёгка астываюць, таму, як толькі вы расслабіліся побач з ёй, вы можаце ў самы непадыходзячы момант атрымаць адстаўку. Яны не любяць падпарадкоўвацца мужчыну нават у ложку. Іх неўтаймоўныя рэўнасць і ганарыстасць, ненасытная прага перамен і новых вострых адчуванняў прымушаюць іх часам пускацца на самыя рызыкоўныя авантуры. Але яны **(Леў, Авен)** могуць быць бясстраснымі нават у самыя далікатныя моманты. Праўда, **Стральцы** выкарыстоўваюць секс як спосаб адчуць максімальную паўнату жыцця. Яны пастаянна ва ўсім сапернічаюць з мужчынамі, навязваючы ім свой пункт гледжання ў рабоце, адносінах і г. д. Іх імпульсіўнасць і нецярплівасць, прамалінейнасць і агрэсіўнасць, эгаістычнасць і наіўнасць (на мяжы з інфантыльнасцю), уладарнасць і бязмежнае дзівацтва, экстравагантнасць і задзірыстасць нават у ложку знішчаюць энтузіязм многіх мужчын ужо на адлегласці.

**Авены** ў сексе часта вельмі педантычныя і ўпартыя ў сваіх прывычках, а **Львы** ўвогуле могуць быць зусім раўнадушныя да яго! Гэтыя жанчыны лічацца толькі з больш моцнымі і больш хітрымі, энергічнымі і дзелавымі, смелымі і рашучымі, уладнымі і напорыстымі, здольнымі ўтаймаваць іх і ўтрымаць бясконцым феерверкам яркіх і неардынарных думак, адчуванняў і ўражанняў. Мужчынамі, якія ім уступаюць, яны пагарджаюць.

Самыя гаваркія і раскаваныя жанчыны нарадзіліся пад паветранымі знакамі задыяка **(Вадалей, Шалі, Блізняты)**. У параўнанні з вогненнымі знакамі яны яшчэ больш вытанчаныя ў сваіх патрабаваннях да мужчын. Гэта і прага разнастайнасці, адсутнасць пастаянства ў настроі і звычках, легкадумства і транжырства, ілжывасць і двайстасць, незвычайная любоў да забаў і прыгод, да экзатычных уражанняў і адчуванняў. Вельмі любяць прыгожы, эфектны знешні бок жыцця, нават не на карысць яго змесу. Секс для іх — гэта ў першую чаргу знешняе захаванне шэрагу эмацыянальных рытуалаў, у адваротным выпадку ён ім не патрэбен увогуле. Таму што для **Блізнят** гэта толькі гульня, у ходзе якой яны нават любяць кідаць выклік партнёру і вельмі вынаходліва іграюць сваю ролю. **Шалі** са слабым партнёрам бяруць ініцыятыву ў свае рукі, штохвілінна патрабуючы доказаў кахання. А **Вадалеі** любяць памяркоўнасць і парадак нават у спальні. Гэта знаходка для мужа са слабым тэмпераментам, які ідзе не столькі ад сексу, колькі ад спакою і ўвагі. Гэта эстэты ва ўсім, лёгка навучаюцца любым тонкасцям жыцця. Эмацыянальна тонкі мужчына, гібкі і дыпламатычны, які мае іскрынку ў сваёй асобе, тонка адчувае партнёрку, можа стаць для іх кумірам і лідэрам. Іх цяжка падмануць, таму што прыроджаная інтуіцыя часта раскрывае сапраўдныя задумы мужчыны яшчэ ў стадыі іх зараджэння. З імі лёгка, весела і прыемна, але пры ўмове, што вы акружаеце іх бясконцай колькасцю знакаў увагі, яркіх і выразных, пажадана дарагіх і прэстыжных, вытанчаных і арыгінальных.

Аптымальным спалучэннем страснасці і гаварлівасці з'яўляюцца жанчыны, народжаныя пад воднымі знакамі задыяка: **Рак, Рыбы, Скарпіён**. Жанчына-Рак вельмі эратычная, імкнецца да атрымання найбольш моцнай і вытанчанай пачуццёвай асалоды, хоць напачатку можа паводзіць сябе холадна і непрыступна. Мара аб «вогненнай» жанчыне часта ўвасабляецца ў **Раку і Скарпіёне**. Праўда, **Рака** страсць звычайна захоплівае поўнасцю, а **Скарпіён** пры жаданні цудоўна валодае сабой. Часткова таму такія жанчыны лічацца ракавымі і загадкавымі. Яны незвычайна разумныя і праніклівыя. І калі **Ракі** любяць мужчыну крыху па-мацярынску, то **Скарпіёны** ў хвіліны блізкасці могуць быць настолькі беспадобныя, што мужчыны літаральна не могуць ад іх адарвацца, часта надоўга застаючыся рабамі сваёй страсці. З-за іх **(Скарпіёнаў)** рушацца кар'еры і разбіваюцца сем'і. **Ракі і Рыбы** з'яўляюцца самімі захавальнікамі хатняга ачага. **Рыбы** аддаюць перавагу прыгожай эротыцы, страснаму сексу.

Самымі кансерватыўнымі ў сексе і іншых адносінах з'яўляюцца жанчыны, народжаныя пад задыякальнымі знакамі зямлі: **Цялец, Дзева, Казярог. Казярогі** напоўнены супярэчлівасцямі паміж сваімі жаданнямі і рэальнай магчымасцю іх задавальнення. Яны асабліва строгія ў захаванні знешніх прыстойнасцяў, часта ў многім аскетычныя і толькі часам з галавой кідаюцца ў кароткія прыгоды, у якіх пры камфортнай абстаноўцы могуць быць тэмпераментнымі. **Дзевы** літаральна створаныя для пяшчоты і ласкі, паважаюць мужчын, паслухмяныя і сарамлівыя, добразычлівыя, здольныя даць партнёру паўнату сексуальных адчуванняў, калі раней зачараваныя ім. **Цяльцы** імкнуцца акружыць сябе прыгожымі рэчамі і мужчынамі, жадаючы атрымаць у кожным новым партнёры яшчэ нязведаную асалоду. Сувязь з імі часта сумбурная і няўстойлівая з-за іх упартасці і рэўнасці. Разам з рамантычнасцю маюць дзелавую хватку, хочуць валодаць мужчынам ва ўсім і да канца, бываюць разаральнымі для мужчын. Гэтыя жанчыны патрабуюць асабліва асцярожных і ўважлівых адносінаў. Яны аддаюць перавагу працягламу прыгожаму перыяду заляцання. І нават у інтымнай абстаноўцы стараюцца асноўны ўпор рабіць на вытанчаную эротыку, без якой адзін секс здаецца ім толькі пошлым і ганебным.

**Аляксандр АЛТУНІН, кандыдат медыцынскіх навук,**
*«АиФ—Здоровье».*

**Звінела зброя. Ліліся віно і кроў. Гучала музыка. Ляцелі стагоддзі... І заўсёды былі яны — дужыя, нахабныя, часам жорсткія. І заўсёды былі мы — пяшчотныя, сціплыя, часам шалапутныя і капрызныя. Толькі пра іх, мужчын, летапісцы і хранікёры (у пераважнай большасці таксама мужчыны) пісалі падрабязна і шмат. А пра нас, жанчын, — мімаходзь і мала. Так і былі верныя спадарожніцы воінаў і донжуанаў усяго толькі ледзь прыкметнымі постацямі за шырокімі спінамі сваіх «моцных палавін». Іх нярэдка ў летапісах забываліся назваць нават па імені. «І было ў князя чатыры сыны: Ізяслаў, Мсціслаў, Яраслаў, Усевалад і дзве дачкі...»**

**Аднак гэтыя ціхія цені мужчын, здаралася, уражвалі сучаснікаў. Прыгажосцю, учынкамі, лёсам — пранізліва-шчаслівым ці адчайна-няшчасным. Уражвалі так, што і ім знаходзілася месца ў скупых радках Гісторыі.**

**Ірына Масляніцына і Мікола Багадзяж, гісторыкі-публіцысты, ужо некалькі гадоў працуюць разам над гэтай цікавай і складанай тэмай — жанчыны ў гісторыі Беларусі. З-пад іх пяра ўжо выйшла кніжка «Слава і няслаўе», у якой — 34 жаночыя гісторыі з глыбіні вякоў да мінулага стагоддзя. Вось-вось пабачыць свет яшчэ адна — «Вянок жаночых лёсаў», у якой паўсотні гераінь. Імі ж падрыхтаваны да друку энцыклапедычны даведнік «Жанчыны ў гісторыі Беларусі», дзе больш за шэсцьсот артыкулаў пра жанчын, якія нарадзіліся на нашай зямлі ці значна паўплывалі на яе лёс (праўда, даведнік ужо больш як тры гады «завіс» у выдавецтве).**

**І, вядома ж, пра іх, жанчын з далёкага і не вельмі мінулага, мы гутарылі напярэдадні жаночага свята. Я папрасіла Ірыну і Міколу расказаць пра самую шчаслівую і самую няшчасную, самую скандальную і самую дабрадзейную, самую мужную і самую жорсткую жанчыну ў нашай гісторыі...**

**А вы ведаеце, браткі-беларусы: была ў нас і свая Пенелопа, і свая Жана д'Арк, і свая лэдзі Макбет. Не верыце? Мяркуйце самі.**

ЖАНОЧЫЯ ГІСТОРЫІ

# Будзьце шчаслівымі! Як Ганна Яраслаўна

## Шчасце каралевы Францыі, унучкі Рагнеды

Кахаць і быць каханай — вось формула сапраўднага шчасця ці не для кожнай жанчыны. Калі заўсёды побач чалавек, які гатовы паслаць да д'ябла ўсе ўмоўнасці і нават адмовіцца ад свайго Бога дзеля адзінай і непаўторнай. На жаль, далёка не ўсім шанцуе сустрэць такога. Але жанчыне з далёкага XI стагоддзя Ганне Яраслаўне пашчасціла. Яна мела ўсё — багацце, уладу, сям'ю. І — каханне.



*Жанчына з вачыма «колеру сапраўднага піва» — Барбара Радзівіл.*

Ганна была сярэдняй дачкой сына князя Уладзіміра і Рагнеды, Яраслава Мудрага. Як сведчылі сучаснікі, з трох сясцёр яна была самай «звычайнай» — Лізавеце і Анастасіі дасталося ў спадчыну ад полацкай бабулі крыху больш прыгажосці. «Заганай» Ганны былі рудыя валасы. Распешчаныя дасканалай прыгажосцю яе сясцёр, замежныя сваты не вельмі кідалі позіркі на сярэднюю дачку кіеўскага князя. Ганна «заседзелася ў дзеўках» да 25 гадоў.

Але тут у далёкай Францыі памерла жонка ў караля Анры І, не пакінуўшы яму нашчадкаў. Кароль і рад бы быў ажаніцца другі раз, але якраз у гэты час папа рымскі забараніў шлюбы паміж сваякамі аж да сёмага калена. А ўсе каралеўскія двары Еўропы былі звязаныя даволі блізкім сваяцтвам... Каралю данеслі, што ў далёкай, «дзікай» краіне ў князя засталася незамужняя дачка. І ў варварскую краіну, якой не было нават на тагачаснай карце, рушылі французскія пaслы.

Праз год у Парыж урачыста ўехала новая каралева, прывёзшы з сабой шыкоўны пасаг, які выклікаў у французскай знаці захапленне і павагу.

Рудавалосая каралева пражыла са сваім мужам адзінаццаць гадоў, падараваўшы яму трох сыноў. Але Анры І памёр, і трыццаціпяцігадовая жанчына засталася ўдавой. Здавалася, так яно і будзе — белы колер жалобы стане яе колерам на ўсё жыццё...

Але тут з'явіўся Ён — граф Рауль Крэпі і Валуа. «Самы магутны і незалежны магнат Францыі, які не баяўся ні арміі караля, ні царкоўных громаў», — так пісалі пра яго сучаснікі. Ён лічыў сябе свабодным — сваю жонку ён даўно выгнаў за здраду. Дый што магло перашкодзіць яму кахаць хай сабе і каралеву, калі ён не баяўся нічога? Калі Ганна сказала яму, што чакае дзіця, ён проста пасадзіў яе наперадзе сябе на каня і звёз, як «звычайную пастушку» ў сваю сталіцу. Там ён знайшоў нейкага святара, які абвянчаў іх. Ганна скінула жалобную сукенку, а хутка ў сям'і з'явіўся нашчадак...

Першая жонка графа паехала ажно да папы рымскага скардзіцца на мужа. Папа даслаў Раулю загад: адаслаць каралеву і прыняць законную жонку. Інакш — адлучэнне ад царквы (можна толькі ўявіць, што гэта значыла ў XI стагоддзі).

І што граф? Ён толькі пасмяяўся з грознага паслання. Не ўступала яму ў смеласці і каралева — яна працягвала жыць з каханым чалавекам, пакуль праз чатырнаццаць гадоў яго смерць іх не разлучыла. Але можна меркаваць, што ненадоўга: праз год яна пакінула двор, і ўсякія звесткі пра яе губляюцца. Магчыма, яна проста ціха згасла, успамінаючы чатырнаццаць гадоў свайго імклівага, шалёнага, забароненага шчасця...

## Чаканне даўжынёю ў семнаццаць гадоў

Самая трагічная шырокавядомая гісторыя — жыццё Чорнай дамы Нясвіжа, Барбары Радзівіл. Але з ёю заўсёды быў каханы чалавек, які заставаўся побач і пры жыцці, і ў хвіліну смерці, і ўсю доўгую дарогу да магілы...

Гісторыя Ганны, апошняй князёўны Кобрынскай, якая жыла на 60 гадоў раней за Барбару, уяўляецца нашмат больш трагічнай у сваёй безвыходнасці.

А ўсё пачыналася так прыгожа! Ганна Кобрынская, спадчынніца княства, выходзіла замуж за прадстаўніка, знатнага роду Фёдара Бельскага. Было шыкоўнае вяселле, вочы нявесты ззялі ад шчасця. За сталом сядзеў самы пачэсны госць, вялікі князь Літоўскі Казімір. Лілося віно, маладым зычылі шчаслівага і доўгага жыцця...

Але зусім не маладой жонкай былі занятыя думкі жаніха. Разам са сваімі паплечнікамі ён збіраўся падчас вясельных гулянняў падняць паўстанне супраць Казіміра, каб потым далучыць праваслаўную частку дзяржавы да Маскоўскага княства...

На досвітку, пасля першай шлюбнай ночы, князь Бельскі ўцёк, ратуючы сваё жыццё: нехта выдаў імёны змоўшчыкаў. Паплечнікаў схапілі, а апальнага беглага князя прыветна сустрэлі ў Маскве. Ганна засталася саламянай удавой, так і не спазнаўшы радасці сямейнага жыцця...

Жанчына аказалася лялькай у руках лёсу і мужчын. Казімір трымаў яе ў якасці заложніцы, спадзеючыся, што мяцежнік усё ж вернецца за маладой жонкай. Той жа не мог гэтага зрабіць, бо ведаў, што яго чакае смерць. Пытанне аб тым, каб Ганну адпусцілі да мужа, абавязкова прысутнічае ў тагачаснай карэспандэнцыі літоўскага і маскоўскага двароў. «Прыязджай і забірай», — настойліва прапаноўвалі Фёдару. І так доўгія семнаццаць гадоў.

А Ганна чакала, што калі-небудзь каханы ўсё ж прыедзе па яе. Яна рашуча адмаўлялася ад другога замужжа, якое ёй прапаноўвалі з усіх бакоў: у Кобрынскага княства павінны быць нашчадкі. Яна працягвала жыць адна, нават праз семнаццаць гадоў, калі даведалася, што Фёдар зламаўся, ажаніўся ў Маскве.

Другі раз Ганна выйшла замуж, калі ёй было за сорак, у той самы год, калі абрываюцца звесткі пра Фёдара Бельскага. Магчыма, смерць каханага штурхнула яе на гэты крок. Але наўрад ці яна была шчаслівай: занадта позна вырашыла змяніць свой лёс. Дый наўрад ці знік з памяці той, хто быў мужам толькі адзін дзень і каго чакала трэць свайго жыцця.

## Гальшка Астрожская і тры яе мужы

Калі прасачыць судовыя працэсы XVI стагоддзя, наколькі гэта магчыма, прыйдзеш да высновы, што ці не самыя гучныя з іх звязаны з імем адной жанчыны — Гальшкі Астрожскай.

Спачатку суд слухаў справу аб забойстве мужа князёўны Астрожскай, шляхціца Дзмітрыя Сангушкі. Ён выкраў адзіную спадчынніцу зямель і багаццяў знатнага роду і давёз яе аж да чэшскай мяжы. Але тут уцекачоў дагналі сваякі Гальшкі з боку маці, Беаты Касцялецкай, і жорстка забілі маладога мужа. Суд вырашаў, ці мелі яны на гэта права. Калі б маладая ўдава паказала, што збегла па ўласнаму жаданню, забойцаў належала пакараць, калі ж яе выкралі супраць волі — Сангушка заслужыў смерць. Гальшка збегла па сваёй волі, уцякаючы ад надакучлівай апекі маці, інтрыганкі і авантурысткі, пазашлюбнай дачкі караля. Але перад судом маці з ёй крута пагаварыла, і на працэсе князёўна Астрожская паказала, што яе выкралі гвалтоўна.

Уся гэтая гісторыя вельмі не спадабалася каралю. Ён вырашае сам выбраць мужа для Гальшкі. Прэтэндэнт знаходзіцца хутка — католік Лукаш Горка. Маладых вянчаюць у касцёле.

Але не такая была маці Гальшкі, каб некаму, няхай сабе і каралю, саступіць. Абражаная, што дачку выдалі замуж без яе згоды, яна прама з-пад вянца звозіць тую ў Львоў, у манастыр, дзе яе чакаюць святар і загадзя падрыхтаваны жаніх, праваслаўны князь Сямён Алелькавіч. З лёгкай рукі маці Гальшка абзаводзіцца адразу двума мужамі.

Абражаны Лукаш Горка збірае войска і пачынае асаду манастыра, патрабуючы выдаць уцякачку. Манахі адмаўляюцца, моляцца і час ад часу абстрэльваюць са сцен каталіцкае войска. Але ў манастыры скончылася вада, і Гальшку выдалі першаму мужу.

Зноў быў суд. Гальшка аб'явіла, што не будзе есці і выходзіць з пакоя, пакуль яе не вернуць да Сымона, другога мужа. Можа, суд і злітаваўся б над жанчынай, але тут умяшаўся кароль, якому ўсё гэта надакучыла. Стукнуўшы кулаком па стале, ён заявіў: «Як я рашыў, так і будзе». Гальшку аддалі Лукашу.

А таму, стомленаму асадай, абражанаму паводзінамі жонкі, яна ўжо была непатрэбная. Ён проста запёр яе ў адным са сваіх замкаў і забыўся. Выйшла Гальшка з «няволі» толькі пасля смерці мужа. Але свабода ёй была непатрэбна: лепшыя гады прайшлі, дый другога мужа, якому аддавала перавагу, таксама ўжо не было ў жывых. Да канца жыцця жанчына, чый лёс гісторыкі назавуць самым скандальным, жыла як манашка.

## Святая княгіня



*Святая Соф'я Слуцкая.*

Імя Соф'і Слуцкай гісторыкі ўспамінаюць як імя апошняй прадстаўніцы магутнага роду Алелькавічаў, а святары — як імя святой.

Хаця ўсё яе дабрадзейнае жыццё пачыналася... са скандалу. Маладую князёўну, сірату і адзіную спадчынніцу княжацкага багацця, сасваталі за не менш багатага і знатнага князя Януша Радзівіла. Маладыя, якія вельмі падабаліся адно аднаму, з нецярплівасцю чакалі вяселля. Але ўсе іх надзеі рухнулі з-за сваркі апекуна Соф'і Хадкевіча з бацькам Януша. Заручыны разарвалі. Радзівілы палічылі сябе абражанымі і падцягнулі войскі да замка Хадкевічаў, у цэнтры Вільні, патрабуючы выдаць ім нявесту. Справа запахла сапраўднай вайной. Але Радзівіл раптоўна адвёў войскі. Ужо пазней з'явілася легенда, што князёўна Соф'я папрасіла Бога або абразуміць ворагаў, або паслаць ёй смерць, і Усявышні пачуў яе малітвы. Бакі памірыліся, і вяселле ўсё ж адбылося.

У гэты час адбывалася пагалоўнае і нярэдка гвалтоўнае далучэнне праваслаўных да ўніяцкай царквы. Соф'я, выйшаўшы замуж за уніята, не здрадзіла праваслаўнай веры, і ў шлюбным дагаворы абгаварыла, што яе дзеці таксама будуць праваслаўнымі. Случчына — уладанні маладой княгіні, спрадвеку была праваслаўнай. Думка аб тым, што над яе падданымі могуць учыніць гвалт, прымушае Соф'ю прасіць мужа, каб той дабіўся каралеўскага рашэння аб забароне прымусовага далучэння да уніі. І хутка яна атрымлівае такі дакумент, завераны самім каралём.

Пасля гэтага жыхары Слуцка сталі лічыць сваю княгіню святой. Але яна мала пацешылася з любові людзей і мужа — у 27 гадоў Соф'я памерла, нарадзіўшы мёртвае дзіця. З яе труны падчас пахавання ішоў водар ладану — дакладная прымета, што нябожчыца — святая.

Кожны год, пачынаючы з пачатку XVII стагоддзя, лепшыя швачкі Слуцка шылі новую сукенку і ў дзень нараджэння Соф'і пераапраналі яе. Доўгія вякі цела княгіні было нятленным: нябожчыца нібы спала. Кананізавалі Соф'ю Слуцкую толькі пасля Вялікай Айчыннай вайны. Нядаўна святыя мошчы перавезлі ў Мінск, у кафедральны Свята-Духаў Сабор. Тады ж яе і пераапранулі апошні раз. Праўда, цяпер труна стаіць закрытая. А на ёй — словы Святога Пісання: «Шчасныя тыя, хто плачуць, бо яны суцешацца...»

## Ліцвінская Жана д'Арк

У вялікага Адама Міцкевіча ёсць прыгожая балада «Смерць палкоўніка». У ёй прачула і прыгожа апісана, як салдаты хаваюць свайго камандзіра: кладуць побач у магілу зброю, падводзяць развітацца каня, успамінаюць пра мужнасць нябожчыка. І толькі ў апошніх радках — адкрыццё: палкоўнік — маладая жанчына. Правобразам гэтага твора стала наша зямлячка Эмілія Плятэр. Праўда, Міцкевіч павысіў яе ў званні — на самай справе дзяўчына была капітанам.

У яе з дзяцінства была адзіная мара — памерці за Айчыну. Бацька Эміліі, граф, зусім збяднеў, і таму і яму, і маці было не да выхавання дачкі. Пакінутая сама на сябе, яна цэлымі днямі вучылася страляць, фехтаваць, гойсала верхам на кані. І чакала: вось прыйдзе яе час...

І яе час сапраўды прыйшоў. У 1830 годзе ўспыхнула вызваленчае паўстанне ў Польшчы. У Паўночнай Беларусі яго падхапіла маладая худзенькая дзяўчына. Яна хадзіла па хатах сялян, звала іх у свой атрад. І мужыкі, якія не вельмі падтрымлівалі шляхецкі мяцеж, ішлі пад яе сцягі. Сабраўшы атрад, Эмілія далучылася да паўстанцаў. Але камандзіры не вельмі прыязна ставіліся да жанчыны ў войску. Эмілію ледзь не адправілі дамоў. Але за яе заступіліся некаторыя афіцэры, заявіўшы, што сыдуць разам з ёю. Дзяўчына стала ваяваць у чыне капітана. Царскія ўлады прызначылі за яе галаву салідную ўзнагароду.

Самая вялікая крыўда ў яе кароткім жыцці — гэта, напэўна, тое, што ёй так і не ўдалося памерці за Радзіму са зброяй у руках. Паўстанне было амаль ушчэнт разбіта, мяцежнікі адступалі за мяжу. А Эмілія не вытрымала халоднага дажджу і моцна захварэла. Саслужыўцы вымушаны былі пакінуць яе ў сялянскай хаце. Там яна ціха і хутка згасла. Пахавалі дзяўчыну-воіна пад чужым імем. І яшчэ доўгі час Эмілія Плятэр значылася ў царскіх спісах асабліва небяспечных вышукваемых злачынцаў...

## Жорсткіх не было. Былі — прыгожыя

Калі я спыталася ў сваіх суразмоўцаў пра самую жорсткую жанчыну ў нашай гісторыі, пачула хвіліннае маўчанне, а потым аднадушны адказ: «Не, сваіх Салтычых на Беларусі не было».

Хаця былі ў нас жанчыны-злачынцы. Мачаха князя Вячкі, Святохна, якая забіла верных слуг і ледзь не пагубіла пасынкаў. Першая і адзіная Літоўская каралева (потым будуць вялікія княгіні) Марта, якая пакінула за сабой разам з мужам, Міндоўгам, нямала трупаў. Ці адна з роду Дастаеўскіх, якая забіла ўласнага мужа. Але для ўсіх іх гісторыкі знаходзяць апраўданне: яны проста эгаістычна ўладкоўвалі свой лёс. Бессэнсоўна, пав'рацку жорскіх жанчын на Беларусі не было ніколі.

А вось прыгажуні былі. Прычым з такой красой, што летапісцы, забыўшыся, што трэба прытрымлівацца дакументальнага стылю і эканоміць каштоўную паперу, кідаліся апісваць вартасці сваіх сучасніц з эпітэтамі і параўнаннямі.

І калі пра Рагнеду напісана проста: славілася сваёй прыгажосцю, то пра Алену Іванаўну, жонку вялікага князя Аляксандра, у «Хроніцы Быхаўца» напісана так: «А калі ўбачылі яе паслы, падумалі, што гэта анёл у чалавечым абліччы і, разгубіўшыся ад такой пекнаты, стаялі, як укапаныя». З любасцю апісвалі сучаснікі прыгажосць Барбары Радзівіл: тонкія далікатныя пальцы, зграбная постаць і рухі, вочы «колеру сапраўднага піва» (Дарэчы, іменна з яе партрэта малявалі абраз Маткі Боскай Астрабрамскай)..

❑

*Ну што, шаноўныя сучасніцы, крыху сумна, праўда? Ніхто не пойдзе сёння асаджаць замак з-за адной з нас, ніхто не выкрадзе і не павязе на імклівым кані на край свету... Але памятаць пра тое, што мы зусім не горшыя за тых, дзеля каго гэта рабілася, проста неабходна. Усё ж, што ні кажы, і яны, і мы — дочкі адной зямлі.*

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

